# АБ ЧЫМ ШУМІЦЬ БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА




КАЗКІ І ЛЕГЕНДЫ
сабраў і апрацаваў
Мікалай Гайдук

Галоўнае праўленне
Беларускага грамадска-культурнага таварыства

Беласток 1982

**Мікалай Гайдук**

# АБ ЧЫМ ШУМІЦЬ БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

Казкі і легенды

МАСТАК
Ірына Цыбік-Лемеш
КАРЭКТАР
Валянціна Жэшка



Białostockie zakłady Graficzne. Zam. 1281/81 1000 egz. A-1

## АДКУЛЬ УЗЯЛАСЯ ГЭТАЯ КНІЖКА

Як здарыцца вам калі-небудзь пабываць у Белавежскай пушчы, вы абавязкова прыслухайцеся да яе гоману. Не маўчыць яна ніколі.

Кожны раз, як я наведваў Белавежу і ўслухоўваўся ў гэты яе няспынны пошум, мне здавалася, што чую нейкае бясконцае апавяданне на дзіўнай, незразумелай мне мове. Раз лілося яно так жвава і весела, што ўсё навокал аж звінела і ззяла, іншы раз разлягаўся ў ім маркотны стогн, ад якога пушчанскія страхотныя бурыя вываратні станавіліся больш страшнымі, а чорная вада ў дрыгвястых топелях рабілася яшчэ чарнейшай. Цэлымі днямі блукаў я па самых глухіх нетрах пушчы, кружыў па яе ўзлесках. Але аніяк не мог разгадаць гэтую дзівосную мову-сказ.

Тады падаўся я да людзей з мястэчак, сёлаў і хутароў, што раскінуліся навокал пушчы. Заводзіў з імі гутарку, выпытваў.

І што вы думаеце? Усе мае размоўны згодна запэўнілі і пераканалі мяне, што ўдзень і ўночы, ва ўсе поры года, пушча бае сабе розныя дзівосныя казкі і легенды. Некаторыя з іх сталі даступныя людзям, і яны мне іх расказалі.

Як заўсёды бывае ў казках і легендах: у іх у далікатную карунку спляліся разам былое з небыліцамі, праўда з выдумкай, сівая мінуўшчына з нядаўнімі часамі. Калісьці, як большасць людзей не ўмела ні пісаць ні чытаць, старэйшыя расказвалі іх малодшым, жыхары адной мясцовасці — жыхарам другой. Вандравалі так і вандруюць часам яшчэ і цяпер казкі і легенды ад адной страхі пад другую, ад аднаго пакалення да другога. Пры гэтым гублялася з іх нешта ў адным месцы, затое прыбаўлялася іншае ў другім.

Часам казкі забіраюць простага чалавека з яго штодзённага жыцця і вядуць у фантастычны свет. Скажыце, а хто ж з нас не любіць крышку памарыць? Таму і здараецца, што звычайны селянін лунае сабе ў паветры над роднай ваколіцай, гайдаецца на ражку месяца, частуецца пірагамі на небе. Аднак, пагайсаўшы сабе ўдоволь сярод незвычайных чароўнасцей, зноў вярталіся людзі ў свой родны кут. Бо дзе ж можа быць лепш, як у роднай староньцы? Тут жа дзеялася рознае: дрэннае і добрае, страшнае і вясёлае, паважнае і смешнае — як гэта заўсёды бывае ў жыцці. Любяць казкі баяць пра розных дзікіх звяроў і хатніх жывёлаў, але калі дакладней прыгледзецца да гэтых непаваротлівых мядзведзеў, хітрых лісіц, баязлівых зайцоў, працавітых валоў, крыклівых пеўнікаў — усе яны маюць уласцівыя той ці іншай жывёліне павадкі і такія ж, як у многіх людзей, паводзіны.

У казках і легендах чалавек выказаў свае назіранні над жыццём прыроды і людзей, перадаваў свой вопыт, глыбока задумваўся над сэнсам жыцця, марыў аб лепшай долі і шчасці. У іх пераважна бя-

рэ верх пакрыўджаны над крыўдзіцелем, слабейшы над мацнейшым, бядняк над багацеем, дабро над злом.

Такім чынам слова за словам, сказ за сказам і год за годам сабраў я жменьку гэтых народных твораў. Сярод іх ёсць такія, што нарадзіліся ў мясцовасцях навокал Белавежскай пушчы, і такія, якія прывандравалі сюды ад берагоў Нёмана, Дняпра, Віслы ці нават з больш далёкіх краін. Але цяпер усе яны — сталыя насельнікі тут, над Нарвай, Нараўкай, Лясной, Лутоўняй, Арлянкай і іншымі рэкамі і рачулкамі, што віюцца па гэтай пушчанскай ваколіцы. Жывуць яны ў памяці людзей і перадаюцца з вуснаў у вусны на тутэйшай мове, такой звонкай, як кукаванне зязюлі надвячоркам на ўскраіне пушчы, і такой ласкавай, як подых летняга вецярку на ўсланай спелымі суніцамі пушчанскай паляне.

І прыйшло ка мне жаданне таксама ўсім вам адкрыць таямнічыя апавяданні Белавежскай пушчы.

Мікалай Гайдук



## ЧАМУ КОТ З САБАКАМ У ЗГОДЗЕ НЕ ЖЫВУЦЬ

Яшчэ за цара Гароха, калі зямлі была толькі кроха, па ўсёй гэтай крышынцы вада ўсюды бурлівіла. Людзей тады таксама было не вельмі многа, а звяроў дык зусім мала. І не дзіва, што тады кожны звер, малы ён ці вялікі, меў свой дакумент і вызначанае сталае месца, на якім жыць павінен. Усе звяры пільнаваліся сваіх гнёздаў і месцаў, па свеце не валачыліся.

У адной хаце жылі там кот і сабака. Дружылі яны так моцна, што вадой лі — не разліеш, рукамі рві — не разарвеш. З аднаго чарапка елі, разам на шпацыр хадзілі, кот спаў на цёплым прыпечку, а сабака — у куточку каля дзвярэй. Жылі яны так сабе колькі часу і надта ж абрыдла ім такая нуда.

— Што гэта за жыццё таксуе, — маўлялі. — Ні ты пабрашы на каго, ні ты да чужой печы прытуліся. Усё сядзі ды сядзі ў сваёй нары, бы той кацмалух*) які!

Наракалі яны так, наракалі, ды і рашылі ў свет падацца. Пакінулі сваю хату і ў ёй месцы наседжаныя і пайшлі, куды вочы глядзяць. Ідуць так дзень, ідуць другі, а на трэці рэчка дарогу ім перагарадзіла. Сабаку рака — хоць бы што, але кот абмакнуў лапу ды і ходу ад вады.

— Меў бы я, — кажа, — боты, перайшоў бы, але так, босаю нагою, вады мне не перайсці ніколі.

— Га, восьь табе і на! — усклікнуў сабака. — А дружба наша, дык што? Ці ж яна нічога не варта?

*) Тлумачэнні слоў, абазначаных зорачкай, знойдзеце ў канцы кнігі.

Сядай, браток, на мае плечы, і раку, як бач, адолеем. Толькі мой дакумент вазьмі — наверсе яго зручней ад вады зберагчы.

Прымасціўся кот на плячах у сабакі. Свае і сабачы дакументы ў зубы ўзяў, каб чаго добрага неўзнарок дзе не замачыць.

Рушылі яны плысці. Рака ж шырокая была. Плывуць яны так, плывуць доўга ці коратка і ўсё моўчкі. Сабаку сумна стала.

— Як ты там, браток, наверсе маешся? — пытаецца ён у ката. — Ці не падмывае цябе вада часам?

Кот і хацеў бы сказаць нешта, але слова вымавіць не можа — баіцца, каб дакументы ў ваду не выраніць. Сабака ж да яго прыстае са сваімі размовамі, вядома ж, сабакі ўсе гаваркія.

— Нічым і не аказваешся, коце, ці не задрамнуў ты там часам на сухім ды цёплым седзячы?

Кот вельмі рад быў бы адазвацца, але ўсё за лёс сваіх ды сабачых дакументаў трасецца.

— Ага, табе, відаць, самому паплаваць захацелася, — кажа разазлаваны сабака, калі яны якраз на сярэдзіне ракі былі. — Ну, злазь з маіх плеч!..

— Браточку міленькі, не губі ты мяне, — заенчыў тут на ўсё горла кот ды давай хваліць ды выхваляць сабаку і яго род за вялікі розум, здольнасці ды сталасць у дружбе.

Паперы ж тым часам — бух! — у ваду і паплылі сабе. Бачыць кот, якая бяда здарылася, але пра гэта ні слова сабаку не кажа. Баіцца, каб той часам яго ў ваду не спіхнуў і разам з тым жыцця не пазбавіў.

Даплылі яны шчасліва да берага, і тут сабаку ўсё ясным стала. Спачатку ён словамі на ката накінуўся, потым жа і зубы шчырыць стаў. Кот пачаў тлумачыцца ды бараніцца. Ад слоў і пагрозаў неўзабаве і да ўчынкаў перайшлі, у бойку кінуліся. Сабака ўсё намерваўся ката на кавалкі разарваць, а той так і ладкаваўся ўвесь час, каб сабаку вочы выдзерці.

І так вось з таго часу дзяруцца яны ды па свеце адзін другога ганяюць. Жывуць жа, дзе прыдаецца: рады тым, калі чалавек які-небудзь прыгорне іх у сваёй сялібе.

Людзі ж тое заўважылі і нават прыказку склалі пра тых, хто вечна сварыцца ды дзярэцца: жывуць, як кот з сабакам.



## ЯК ЛІСА СЫР ДЗЯЛІЛА

Жылі-былі ў пушчы старая матка мядзведзіха з двума медзведзянятамі. Пакуль дзеткі малыя былі, мядзведзіха і карміла і паіла іх. Але як яны падраслі, выправіла іх матка ў шырокі свет шчасце-долю шукаць і самім сабе ежу здабываць. Хоць не хацелася медзведзянятам з цёплай бярлогі ў чужыя ваколіцы падавацца, але матка грозна буркнула і нічога не парадзіш — ісці трэба.

І пайшлі яны лясной сцяжынкай, куды вочы глядзяць. Ідуць яны так, ідуць ды за спажывай усюды разглядаюцца. На палянцы каля маладога асінніку жменьку нейкіх карэньчыкаў накалупалі ды пажавалі. У далінцы, пад высокімі елкамі, дзе густы ягаднік кусціцца, крыху чарніцамі паласаваліся. Але што ні кажы, аднак даўкім карэньчыкам ды кіслай ягадай жывата не абманеш.

Ішлі яны доўга ці коратка, і вельмі ж ім той голад надакучыў. Ажно бачаць: на моху каля сцежкі сыр ляжыць. Відаць, ляснічыха згубіла, на торг ідучы. Абрадаваліся медзведзяняты ды адразу абодва за сыр ухапіліся. Адзін крычыць: „Мой сыр!", другі раве: „Не твой, а мой!" Спрачаліся, крычалі аж урэшце рашылі падзяліць сыр між сабою пароўну. Спрабавалі яго падзяліць так — не спадабалася аднаму, прыкінулі гэтак — не згадзіўся другі. Зноў спрэчка разгарэлася, і аніяк яны да ладу дайсці не маглі.

Пачула іх сварку ліса і прыбегла паслухаць, з-за чаго мядзведзі не паладзілі паміж сабою. Убачылі тыя лісу і давай яе прасіць:

— Падзялі нам, ліска, сыр па справядлівасці, каб кожны атрымаў пароўну і нікому крыўды не было.

А то мы паўдня спорым і да толку дайсці не можам.

Ой, добра-добра, — кажа ліса, — я мігам падзялю і пароўну і па справядлівасці.

Разламала яна сыр на два kавалкі. Адзін кавалак выйшаў большы, а другі меншы.

— О-о-о, — закрычалі мядзведзі, — гэта несправядліва!

—Пачакайце-пачакайце, — супакойвае іх ліса, — мігам выраўняю.

Адкусіла яна ад большага кавалка лусту і з'ела. Цяпер большы кавалак стаў меншым, і мядзведзі зноў у рык:

— Ну-у-у, гэта не пароўну!

— Хвіліначку-хвіліначку, — пацяшае ліса, — ужо папраўляю.

Адкусіла яна ад другога кавалка, і той стаў меншы ад папярэдняга. Убачыўшы такое, мядзведзі рычаць, не супакойваюцца:

— Што-о-о, гэтак не можа быць!

— Зараз-зараз, — абяцае ліса, — усё ўладкую.

Адкусіла яна і на гэты раз ад большага кавалка, і ён стаў зноў меншы ад другога. Мядзведзі ж толькі тое і зналі, што рычалі на несправядлівы падзел. Ліса зноў жа адкусвала датуль, пакуль ад сыра засталіся адны крышынкі.

Аблізалася тады яна ды і кажа:

— Вось вам мой падзел і пароўну і па справядлівасці, — а сама засмяялася ды ходу ў лес.

Нюхнулі медзведзяняты месца, дзе яшчэ нядаўна вялікі ды смакавіты сыр ляжаў, — крышынкі разляцеліся, адзін мох астаўся. Суцішыліся яны ды пабрылі галодныя далей блукаць па пушчы, ужо на сваю непамяркоўнасць наракаючы.



# ВАЛОВАЯ ХАТКА

Па вёсках каля Белавежскай пушчы калісьці сяляне будаваліся так: ставілі спачатку хату, потым каля адной шчытавой сцяны прыстаўлялі хлеў, а каля другой — клуню. Усё крылі адной страхою. Ад злодзеяў на дзвярах звонку замкоў не вешалі, а толькі знутры хаты дубовымі засаўкамі ўваходы ў хлеў ды клуню моцна-моцна забяспечвалі. І жылі так, цераз сценку, і людзі і жывёлы — усё адны пра другіх чуючы.

У адной такой хатцы жылі сабе бацька і маці, і быў у іх адзін сын. Жылі яны, пажывалі, абраблялі свой невялічкі палетак ды жывёлу даглядалі. І ўсё было б ціха, калі б не тое, што сын стаў дарослым мужчынам ды кажа бацькам:

— Татульку-матульку, я жаніцца хачу.

— А за што ж мы вяселле табе выправім! — усклікнулі тыя.

— Прадасце вала — якраз на вяселле хопіць, — ён ім на тое.

— У цябе ж няма шлюбнай адзежы і ботаў.

— Як прадасце барана — будуць нагавіцы і чобаты.

— Але ж ты не маеш грошай на гасцінцы для бацькоў маладой і яе дружыны.

— Гусака ды пеўня прадасце — на гасцінцы хопіць.

Што ж, бацькі рады ці не рады, але кажуць:

— Добра, сынку, жаніся, бо і падмога нам у хаце надта патрэбна. Заўтра ж з жывінак) на торг падамося.

Пачулі цераз сценку гэтую размову вол, баран, гусак ды певень, і смяротны жах на іх напаў.

— Што жа ж мы, бедныя, рабіць будзем? — засіпеў з перапуду гусак.

— Куды то нам схавацца? — забегаў па хляве певень.

— Мабыць, нічога мы тут не зробім, сябры, заўтра на торг павандруем, а там і горлы свае пад нож дамо, — пачаў разважаць баран.

— Ну, што ты панікуеш? Няўжо мы так лёгка бядзе паддамося? — запярэчыў яму вол ды і кажа: — А ну, браткі, давайце разам ад няшчасця ратавацца.

Кінуўся ён да дзвярэй і з усяе моцы рагамі ў засаўку ўпёрся. Падскочыў да яго баран і давай ілбом па засаўцы таўчы. Убачылі тое гусак і певень ды таксама да засаўкі падскочылі і шчыпаць яе ды дзяўбці ўзяліся. Змагаліся яны так доўга ці коратка, ажно раптам засаўка — трэсь! — і паддалася. Выскачылі жывёлы на падворак ды цераз поле ў пушчу настрэмгалоў паперлі.

Хадзілі яны там на свабодзе ў выгодзе: то траўку сашчыкнуць, то ягадку здзяўбуць. Вядома ж, у цёплую пару ў лесе кожны кусцік у гасціну пусціць. Але вось прамінулі цёплыя дзянёчкі, наступіў халодны зазімак. Сталі мерзнуць звяры. Аднойчы, калі яны туліліся пад елкаю ў цеснай грамадцы, вол і кажа:

— Давайце збудуем сабе хату, а то ўзімку ад холаду пагінем.

— Але, давайце! — запалалі ўсе жаданнем мець уласную, цёплую і ўтульную хатку

— Значыць, бярэмся за работу, — узрадаваўся вол. — Зараз жа насячэм і навалочым бярвення, нарэжам і нагаблюем дошак, надзярэм і наносім моху — хатку зробім, як цацку.

Паслухалі жывёлы, задумаліся. Не да спадобы прыйшлася ім цяжкая праца.

Баран пакруціўся, пакруціўся і гаворыць:

— Мне хата не патрэбна, мяне воўна грэе.

Гусак жа яму прытакнуў:

— А і мне без хаты абысціся можна, мой пух мяне грэе.

Певень таксама не спяшаўся да работы:

— Нашто мне тая хата! — усклікнуў ён. — Як стану я на адной назе ды голаў пад крыло схаваю, маё пер'е мяне нагрэе.

Сказаўшы гэтакае, ад вала ўсе прэч па пушчы разбрыліся.

Давялося валу самому за будову брацца. Сышоў адзін тыдзень, другі, трэці, і, як бач, пад разгалістай ялінаю валова хатка свежым смалістым зрубам заззяла. Патупаў ён каля яе яшчэ колькі часу: прызбы падсыпаў, дроў Нарыхтаваў. Неўзабаве і маразы ўдарылі. Сядзіць сабе вол у цёплай хаце ды праз акенца ў пушчу паглядае. Там жа зіма разгулялася не на жарты: дрэвы ад сцюдзёнага ветру стогнуць ды зямлю халодная снегавая пасцелька ўсцілае.

І бачыць вол: да яго хаткі певень бяжыць. Стаў пад акенцам ды пачаў Прасіць-маліць, каб яго ў хатку ўпусціць, бо ён ужо зусім замярзае.

— А ці тваё пер'е цябе ўжо не грэе? — пытаецца яго вол.

Непрыемна стала пеўню. Апусціў ён голаў ды дрыжыць усім целам на ветры. Злітаваўся вол над ім і ўпусціў у хатку.

Не прайшло і тыдня; як пад акенцам з'явіўся гусак і таксама ў хатку пачаў прасіцца.

— А ці твой пух цябе ўжо не грэе? — здзіўляецца вол.

Сорамна гусаку. Пераступае ён голымі нагамі з адной на другую на марозным снезе ды на дзверы хаткі паглядае. Пашкадаваў яго вол і адчыніў яму дзверы.

Прамінула некалькі дзён, як і баран пад акенцам стаў і просіцца, каб ад траскучых маразоў у хатку схавацца.

— А ці твая воўна цябе ўжо не грэе? — пацікавіўся вол.

Брыдка стала барану. Панурыўся ён, пад акенцам стоячы. І бачыць вол: уся воўна на баране ў ка-

мяках лёду ды ў шызым інеі. Змякчэла сэрца ў вала — дазволіў ён і гэтаму пасяліцца ў хатцы.

Вось і сталі яны жыць учацвярых у цёплай ды ўтульнай валовай хатцы. Ці то мароз па пушчы ляскае, ці то завейка шалее — звяры ў печ смалістыя паленні падкідаюць ды выгодай цешацца: бык раве, аж сцены ходзяць, баран бляе, аж з полапа пясок сыплецца, гусак з пеўнем гагочуць ды кудахтаюць, аж шыбы ў вокнах звоняць.

Аднойчы блукала па пушчы за спажываю галодная ліса ды пачула гэтыя спевы. Падкралася да хаткі, прыклала вуха да сцяны. Як пачула з сярэдзіны вясёлыя тыя галасы, аж з губы ў яе слінкі пацяклі. Давай яна стукаць у дзверы.

Выглянуў у акенца вол і пытаецца:

— Хто там?

— Гэта — я, ваша суседка — ліса.

— А што табе трэба?

— Хачу разам з вамі павесяліцца.

— Не пушчу, бо нашы з вашымі ніколі разам не гуляюць.

Аж затрэслася са злосці ліса, пачуўшы валову адмову. Абабегла яна колькі разоў хатку, якой-небудзь шчыліны шукаючы, каб унутр праціснуцца. Нідзе ніякага праходу не аказалася, але пах курацiны і гусяціны не даваў лісе спакою. Думала яна, думала, як да жывіны дабрацца і прыдумала.

Знайшла шнырачага па пушчы за харчом ваўка ды кажа:

— Ці вячэраў ты сёння, кум?

— Не то што не вячэраў, кумачка, але і не абедаў і не снедаў вось колькі ўжо дзён, — воўк ёй на тое.

— Ой, кумок, каб ты ведаў, колькі жыўнасці ўсялякай у нашай пушчы завялося!

— Няўжо? А дзе ж яна, тая жыўнасць?

— А ў хатцы пад елкаю. Тау тлустая бараніна на зуб так і просіцца.

І давай яна намаўляць ваўка, каб той у хатку пад елкаю пралез.

Паслухаўся воўк, пабег да хаткі, а за ім і ліса падрыпала.

Пастукаў воўк у дзверы.

Падышоў да іх вол і пытаецца:

— Хто там?

— Гэта — я, ваш сусед — воўк.

— А што табе трэба?

— Пусці ў хату: хачу ў вас на вячорках пасядзець.

— Не пушчу, бо нашы з вашымі ніколі разам на вячорках не бываюць.

Скрыгануў зубамі са злосці воўк, пачуўшы такое. Ткнуўся ён у дзверы — на засаўку зачынены, падскочыў к акну — аканіцамі заслонена, нават зубамі за зруб ухапіўся — не паддаецца. Завыў воўк дзікім голасам ды пабег у пушчу не солана хлябаўшы.

Пацягнулася і ліса прэч ад валовай хаткі, але з кураціны ды гусяціны не зраклася.

Пакруцілася яна па пушчы ды падалася да мядзведзя, што на зіму засынаць збіраўся. Улезла ў бярлогу і пытаецца:

— Ці ты, сваце, перад доўгім сном хоць пасілкаваўся, як належыцца?

— Зусім з пустым жыватом, сванечка, спаць лажуся. Кішкі Марша граюць, аж прыкра слухаць, — мядзведзь ёй у адказ.

— Ой, сваток, а **Ці** ты не ведаеш, якая безліч свежаніны ў нашай пушчы пасецца?

— Ну, што ты? А дзе ж яна, тая свежаніна?

— Ды ў хатцы пад елкаю. Там такая мяккая, маладзенькая ялавічына брыкае, што аж цяжка вока адвесці.

І ўзялася яна пераконваць мядзведзя, каб ён праламаўся ў хатку.

Узвалокся мядзведзь са свае бярлогі, паклыпаў да хаткі, а за ім і ліса подбежкам пабегла.

Пастукаў мядзведзь у дзверы.

Вол і азваўся:

— Хто там?

— Гэта — я, ваш сусед — мядзведзь.

— А што табе трэба?

— Пусці ў хату, пераначаваць у вас хачу.

— Не пушчу, бо нашы з вашымі ніколі разам не начуюць.

Забурчэў са злосці мядзведзь ды як грымне лапай па дзвярах — тыя і рассыпаліся. Уваліўся ён у сярэдзіну, а там на яго жывёлы ўсе разам напалі: вол рагамі да сцяны цісне, баран лобам у бакі таўчэ, гусак дзюбай за жывот скубе, а певень стаіць на печы ды крычыць: „Кудак-дак-дак!"

Вырваўся мядзведзь з хаткі, адбегся, убачыў лісу і раіць:

— Уцякай, сванечка, з пушчы, покі час! Тут завяліся вельмі ж бойкія ваяўнічыя стральцы. Як увайшоў я да іх, дык мяне адразу адзін рагацінаю*) да сцяны прыпёр, другі булавою*) пачаў валіць, трэці крукам дзерці, а чацверты з крывою шабляю на печы стаіць і камандуе: „Так яго ды гэтак!" Добра, што хоць удалося мне вырвацца адтуль, а то і ў жывых не астаўся б.

І ад таго часу вол, баран, гусак і певень жылі ды пажывалі ў валовай хатцы пад ялінаю ў пушчы і спакойна дабро нажывалі.



## НАЙМІЛЕЙШЫЯ І НАЙПРЫГАЖЭЙШЫЯ

Калісьці ў адным урочышчы ў пушчы жылі пасуседску сава ды куніца. У згодзе ды прылгні вялікай увесь час хадзілі. Вядома ж, і адна і другая цёмнай ноччу палююць, а ўдзень у дуплах, у сваіх гнёздах сядзяць.

Аднойчы, як ужо змяркалася, сустрэліся яны на ўзлеску. Сава ў поле ляцела мышэй лавіць, а куніца ў пушчанскую чашчобу па спажыву збіралася.

Тут яны і разгаварыліся.

— Вы, кума, куды сабраліся? — пытаецца сава ў куніцы.

— У пушчу іду, кумачка, прагаладалася я нешта. Вечар ужо настае, можа дзе вавёрку сонную прыдбаю на вячэру або на гняздзечка з птушанятамі натраплю.

— Ах, кума, — пачала прасіць куніцу сава, — вы толькі хоць маіх дзетак не чапайце!..

— Ды што вы! Нават і пальцам не крану, —запэўніла яе куніца. — Толькі як мне іх пазнаць?

— Як жа ж гэта?! — абурылася сава. — Маіх дзетак ды і не пазнаць!.. Яны ж наймілейшыя і найпрыгажэйшыя ў свеце!

— Ну, калі так, то напэўна пазнаю, — сказала куніца.

На гэтым яны і разышліся кожная ў свой бок: сава на поле паляцела, а куніца ў глыб пушчы падалася.

Вандравала так куніца па пушчы, з дрэва на дрэва пераскокваючы, аж на гняздо на старой яліне наткнулася. Заглянула ў яго — там такія прыго-

жыл птушаняткі сядзяць, глядзі — не наглядзішся. „Пэўна, гэта дзеці савы, — падумала яна, — не буду іх чапаць", — і пайшла далей. На вышэзным вязе зноў гняздо звочыла, у ім жа птушаняты такія сабе — ні надта прыгожыя, ні цалкам брыдкія. „Ат, — памеркавала куніца, — няхай жывуць, мо яны савіныя дзеці". У дупле старога каржакаватага дуба таксама гняздо знайшла. Праціснулася туды праз дзірку і бачыць, што там птушаняты сядзяць надта ж брыдкія — з шырокімі ратамі, аблезлыя нейкія. Куніца ўзяла іх ды з'ела. Вылезла яна з дупла, аблізалася і ўжо ісці ў сваё гняздо намервалася, ажно тут прыляцела аднекуль сава і накінулася на яе:

— Ах ты, паганая зладзейка, разбойніца ты кроважэрная! — Із вострай дзюбай ды расчаперанымі кіпцюрамі да куніцы сунулася. — Навошта ты маіх дзяцей паела, гадаўка?

— Што вы, кумачка, не можа быць! — пачала апраўдвацца тая. — Вы ж казалі, што вашыя дзеці наймілейшыя і найпрыгажэйшыя на свеце. Гэтыя ж, што я ў дубовым дупле знайшла, былі такія непрыгожыя, такія агідныя.,.

— І наймілейшыя, і найпрыгажэйшыя, каб ты ведала! — раскрычалася сава. — Вось няхай толькі ты прывядзеш сваіх сляпых кацянят — паглядзіш, якія мілыя ды прыгожыя яны табе будуць. Але я не пагляджу на іх брыдоту, — сказала яна пагрозліва, узмахнула мякка крыламі і знікла ў цемры.

Не рада ўжо была куніца сваёй смакавітай вячэрай і, панурыўшы галаў, да свайго гнязда хутчэй пабегла.

З таго часу паміж савой і куніцай пайшла вечная вайна за дзяцей. Ваююць яны і па сённяшні дзень Сярод людзей жа такая прыказка ходзіць: кожны кулік сваё балота хваліць, а кожная сава — сваіх дзяцей.

# ПАМІЖ ЛЮДЗЬМІ І ЖЫВЁЛАМІ





# ДЗВЕ ДАЧКІ

Непадалёк пушчы жыў-быў адзін дзед са сваёю дачкою і жыла-была адна баба з дачкою. Вядома, цяжка прыходзілася самотнай жанчыне ды яшчэ з дзіцём, і перайшла яна жыць' да дзеда. Адразу стала ім весялей учацвярых: дзед з бабаю разам або ў полі працавалі або на падворку тупалі, а дзяўчынкі-аднагодкі ад ранку і да вечара разам гулялі. Але вось занядужаў дзед, і баба стала наракаць на яго, што пра хату не дбае. Так і пачалося: што дзень — то сварка. Грызла-грызла злая баба дзеда, а потым і за яго дачку ўзялася. Зразу стала чапляцца: то ёй тое ні так, то сее ні гэтак ды давай дзедаву дачку з хаты выганяць. Плакала-плакала тая ў каморы або на запеччы ды, што ж тут пачнеш са злою мачахаю, сабралася, з дзедам развіталася і ў свет пайшла шчасця-долі шукаць.

Ідзе дзедава дачка дзень, ідзе ноч, зайшла ў цёмную пушчанскую гушчавіну і заблудзілася. Блукае яна па чашчобе ды слязьмі заліваецца. Ажно бачыць: карова пад дубам стаіць. Здзівілася дзяўчынка, а карова павярнула да яе мызу і чалавечым голасам пытаецца:

— Чаго ты, дзяўчо, самотна па пушчы блукаеш?

— Мачаха злая мяне з дому выгнала, — кажа ёй дзедава дачка. — Вось я і пайшла ў свет шырокі шчасця-долі шукаць, ішла-ішла ды ў гэтую гушчавіну забрыла і заблудзілася. Памажы мне, кароўка, знайсці сцежку-дарожк^, — стала прасіць дзяўчынка ды горш ранейшага слязьмі залілася.

— Накармі ты мяне, напой і падой, тады я табе дарогу з пушчы пакажу.

Назбірала дзяўчынка на палянцы салод^га, дух-

мянага арэшніку і накарміла карову. Знайшла ў далінцы ручай з халоднай, чыстай вадою і напаіла яе. Узяла дайнічку, асцярожна і далікатна падаіла яе. Задаволеная карова вывела яе з цёмнай пушчы на шырокае поле.

Падзякавала дзяўчынка карове і ўжо весялейшая пайшла далей. Ідзе яна дзень, ідзе ноч, а полю і канца не відаць. Села дзяўчынка на камені і засумавала, што прападзе яна ў гэтай польнай пустэчы. Але ж бачыць, што з узгорка печ па полі коціцца: з зеваў іскры сыплюцца ды з коміна дым калечкамі пыхкае. Падкацілася яна Да дзяўчынкі і чалавечым голасам пытаецца:

— Чаго ты, дзяўчо, адна па полі ходзіш?

Расказала дзедава дачка аб сваёй бядзе і просіць печ, каб тая дапамагла ёй з гэтага пустога поля выбрацца.

— Напалі ты мяне ды пабялі, тады я і выведу цябе з гэтага поля.

Назбірала дзяўчынка рознага быльнягу ды галінак на межах і напаліла печ дагарача. Нарвала травы на квачык*), размяшала ў місачцы драбок Глінкі і пабяліла яе.

Печ ёй і кажа:

— Садзіся ты на мяне, вывезу я цябе адсюль на гасцінец.

Села дзедава дачка на цёплую печ і, як бач, на шырокім гасцінцы шТынулася. Падзякавала яна печы і пайшла па вытаптаным гасцінцы. Ідзе яна дзень, ідзе ноч, а гасцінцу і канца няма. Прысела яна На крушню*) і стала бедаваць, што загіне на гэтым бясконцым шляху. Але бачыць: на ўзгорку конь стаіць. Убачыў ён дзяўчынку, падбег да яе ды і пытаецца чалавечым голасам:

— Чаго ты, дзяўчо, сама па шляхах-дарогах ходзіш?

Расказала дзедава дачка аб сваім няшчасці і папрасіла каня дапамагчы ёй сысці з гэтага гасцінца.

— Пачысці ты мяне добранька, дык я сам цябе на ўласных плячах да самага канца гасцінца занясу, — кажа ёй конь.

Нарвала дзедава дачка шаўкавістай траўкі і вельмі старанна вычысціла конскую поўсць. Устрахнуўся ад задавальнення конь, падставіў нагу, дзяўчынка ўскочыла спачатку на нагу, а потым і на конскі хрыбет узабралася. Ехала яна ці доўга ці коратка, але вось бясконцы гасцінец кончыўся і перад імі ўстала высокая гара. Злезла дзяўчынка з каня, падзякавала яму, а той і кажа ёй:

— За гэтаю гарою стаіць замак ката-варката. Калі ты не маеш куды падзецца, то можаш пайсці да яго на службу, але будзь асцярожная!

Сказаўшы так, павярнуўся ды паскакаў уплык*) назад па гасцінцы.

Пастаяла дзедава дачка пад гарою колькі часу, цяжка ўздыхнула ды пачала ўзбірацца на вяршыню. Узабралася, глядзіць: палац белакаменны сярод абшырнага саду стаіць, а ў ім усё навокал золатам зіхаціць. Прабралася яна асцярожна ў палац, схавалася ў куточку і прыглядаецца. На шаўковай падушачцы на печы кот-варкот ляжыць, а слугі яму тлустых мышэй на сярэбраных талерках падносяць. Есць кот мышэй ды нешта сабе пад вусам варкоча. З'еў ён іх мо з тузін, аблізаўся і ўжо было ўздрамнуць сабраўся. Ажно павёў ён вусам, чужы дух у палацы пачуў, ускочыў з падушкі і загадвае слугам:

— Нехта няпрошаны ў мой палац прабраўся. Знайдзіце яго зараз жа і прывядзіце ка мне!

Разбегліся слугі па палацы, усе куткі ператрэслі і ў адным з іх дзедаву дачку знайшлі. Схапілі, рукі звязалі і перад катом-варкатом паставілі.

— Хто ты такая і чаго ў мой палац прыйшла? —

пытаецца той ды варожа паглядае на дзяўчынку.

Дзедава дачка давай яму расказваць пра сваё гора ды прыгоды, што яе напаткалі ў часе вандравання па свеце. Расказаўшы пра ўсё гэта, яна і просіць ката-варката:

— Прымі ты мяне на службу да сябе, а то мне зусім некуды падзецца.

Падумаў той хвіліну ды і кажа:

— Добра, аставайся служыць у мяне.

Служыць дзедава дачка ў ката-варката, падлогі ва ўсім палацы мые, пыл з мэблі сцірае, атласныя ды шаўковыя падушачкі яму шые, малако цёплае на талерачцы падносіць. Працы многа мае — ад світання і да змяркання завіхаецца. Служыць яна так год, служыць другі, а на трэці сум па родным бацьку такі яе сэрца сціснуў, што стала яна прасіць ката-варката адпусціць яе дахаты. Той спачатку но хацеў і слухаць пра гэта, бачачы яе старанлівую працу. Аднак на дзявочыя просьбы ды мольбы згадзіўся ўрэшце, даў ёй мех грошай за добрую службу і на развітанне сказаў:

— Ідзі сабе дадому, толькі не аглядайся!

Падзякавала дзедава дачка кату-варкату і пабегла подбегам да роднай хаты. Спявае, цешыцца, пазірае на светлае сонейка, на кветкі ля дарогі ды і не заўважыла сама яна, як аглянулася на кашэчы палац. Бачыць: гоніцца за ёю кот-варкот са сваімі слугамі ды крычыць:

— Аддавай мае грошы!

Кінулася дзедава дачка ўцякаць. Але дзе там! Кот-варкот ужо вельмі, блізка. Усчарапкалася дзяўчына на гару, а пагоня яе за пяты хапае! Ажно тут конь на гасцінцы стаіць. Брыкнуў ён заднімі капытамі ў бок пагоні, пылу-пяску ў вочы кату-варкату нагнаў. Стаў той вочы праціраць, а дзедава дачка тымчасам на каня ўзабралася ды паімчала па гасцінцы.

Скача яна так, скача і чуе, што пагоня ўжо блізка. Храпе конь пад ёю, пена з яго кавалкамі падае, а ногі ўсё павальней скачуць. І здалося дзяўчынцы, што вось-вось кашэчыя кіпцюры ў яе плячо ўчэпяцца. Але гасцінец раптам кончыўся, пачалося поле, а на яго краі печ стаіць.

Саскочыла дзедава дачка з каня і да печы бягом. Печ жа як дзьмухне кату-варкату ў нос попелам! Стаў ён чхаць ды печ лаяць. Дзяўчына ж узабралася на печ і пакаціла сабе па пустым полі. Коціцца так печ з дзедавай дачкою, іскрамі з зеваў сыпле, дымком з коміна пыхкае ажно вецер свішча. Але ж чуе дзяўчына, што кот-варкот яе наганяе. Бачыць гэта і печ — намагаецца яна з усіх сілаў, каб неяк да пушчы ўцякачку давезці. Калі ўжо котваркот амаль на печ узбіраўся, ускочыла тая ў пушчанскую чашчобу.

Там жа іх ужо чакала карова. Зарычала яна пагрозліва, капытам зямлю капнула ды вострыя свае рогі кату-варкату наставіла.

Спалохаўся кот-варкот каровіных рогаў і павярнуў назад у свой палац. Дзедава дачка пайшла тады спакойна да свае хаты і ўсе заробленыя грошы ў мяшку панесла.

Прыходзіць яна, вітаецца з усімі і паказвае ім, што на службе зарабіла. Пазайздросціла мачаха такога багацця дзедавай дачкі і паслала сваю дачку да ката-варката на службу.

Не хацела тая на службу ісці, рукамі ды нагамі ўпіралася, бо не любіла яна працы. Але маці сілком яе з хаты вытурыла.

Ішла-ішла бабіна дачка і спаткала ў пушчы карову. Але не накарміла, не напаіла і не падаіла яе.

У полі стаяла печ, але бабіна дачка адмовілася напаліць яе і пабяліць. На гасцінцы ўбачыла яна каня, але на яго просьбу, пачысціць поўсць яму, толькі рассмяялася. Доўга служыла яна ў ката-варката і зарабіла крыху грошай, бо да работы не спяшалася. Але калі яна вярталася дамоў, кот-варкот дагнаў яе са сваімі слугамі і ўсё заробленае адабраў. Ніхто не бараніў лянівую бабіну дачку, і прыйшла яна да хаты з пустымі рукамі.

Так гэта было з тымі дзвюма дочкамі.



## ДАМАВІКОВА ЎДЗЯЧНАСЦЬ

Калісьці часта можна было ўбачыць у сёлах каля Белавежскай пушчы, як на парогах хат выграваліся на сонцы адзін або і некалькі скручаных у кольца вужоў-заскронцаў. У тыя часы лічылі, што гэтыя стварэнні спрыяюць дому і ўсім жывучым у ім. Таму тадышнія людзі ўшаноўвалі неядавітых і бяскрыўдных вужоў і пяшчотна звалі іх дамавікамі.

Вось і жыў-быў у адной хаце такі вуж-дамавік. Гаспадар не крыўдзіў яго, гаспадыня, падаіўшы карову, не праміналa пачаставаць цёплым малаком, а дзеці бралі ў свае гульні. І ўсё было б добра, калі б не такое здарэнне.

Дзеці, гуляючы, знайшлі ў старой прызбе каля хаты яйкі, што склаў той вуж, каб з іх вывеліся маленькія вужаняткі. Залекацела ад болю вужачае сэрца, калі ён убачыў, што яго немаўляткам бяда пагражае. Кінуўся ён да гуляючых дзяцей, віўся каля іх рук, імкнучыся адхіліць бяду, і жаласна сіпеў: „Не крыўдзьце маіх дзетак! Аддайце іх мне!.." Але гуляючыя чалавечыя дзеці не разумелі вужачай мовы ды, каб ён не замінаў ім у гульнях, узялі гольку і прагналі яго з падворка.

І папоўз, бядуючы, дамавік прэч у пушчу. Паўзе, паўзе і плача над сваім няшчасцем. Пачула яго лямант злая ядавітая змяя. Выпаўзла яна са спарахнелага пня і пытаецца:

— Чаго плачаш?

Вуж ёй так і так, пра няшчасце сваіх дзетак расказаў.

Змяя зларадна ўсміхнулася ды кажа:

— Не плач, я зараз аддзякую ім за тваю крыўду.

Не паспеў вуж і азірнуцца, як змяя — шусь! — на падворак ды ў сені хаты, а адтуль — у камору. У каморы якраз гладышы з малаком стаялі. Падпаўзла яна да аднаго гладыша, узнялася над ім, раззявіла пашчу і ўпусціла ў малако кроплю атрутнага яду. Потым падпаўзла да другога гладыша, трэцяга і кожны з іх атруціла.

Вуж, лежачы на парозе, усё гэта бачыў. Анямелы ад жаху ён не змог высіцнуць з сябе ні слова, на змяіныя злачынствы гледзячы. А тая жвава перапаўзла цераз парог на падворак ды сыкнула яму на развітанне:

— Ну, адпомсціла ж я за тваіх дзетак!..

Сама ж, доўга не чакаючы, шмыгнула з падворка зноў у пушчу.

Якраз у той час у хаце была гаспадыня і бачыла, што ўчыніла змяя-гадзюка Зачыніла яна моцна-моцна на засаўку камору і пайшла шукаць мужа, каб расказаць яму пра бачанае.

Толькі яна на падворак, а там ужо і сам гаспадар валы з начнога прыгнаў. Убачыў ён, чым гуляюць дзеці, і зараз жа загадаў:

— Збярыце асцярожненька і занясіце ўсе гэтыя яйкі туды, адкуль вы іх узялі.

Дзеці паслухмяна сабралі свае незвычайныя забаўкі ды занеслі на прызбу.

— Цяпер жа, — кажа ім бацька, — закапайце іх у лісце ды кастрыцу.

Тыя зрабілі ўсё так, як ім бацька сказаў. Той тут жа паясніў:

— Гэта яйкі нашага дамавіка. Ён закапаў іх у прызбе па тое, каб праз некалькі дзён з кожнага яечка вылупілася маленькае вужанятка. Таму і нельга іх чапаць.

У тым часе вуж, ачнуўшыся з адранцвення, кінуўся ў камору. Дзверы туды былі моцна зачынены. Тады ён, знайшоўшы мышыную норку, праціснуўся ёю ў камору і пачаў выварочваць гладышы з атручаным малаком. Вывернуў адзін, вывернуў другі, а калі падпаўзаў да трэцяга, дзверы раптам расчыніліся і на парозе каморы паявіліся гаспадары з дзецьмі. Вуж нават і не заўважыў, з якой удзячнасцю глядзела на яго ўся сям'я.

Нездарма ж па сёлах, што параскіданы вакол Белавежскай пушчы, людзі кажуць: і самы люты звер за дабро дзякуе дабром.



## МЯДЗВЕДЗЬ І ЖНІЦА

Аднаго разу хадзіў-блукаў мядзведзь па пушчы ды прыўважыў, што ў старой дуплястай сасне пчолы вядуцца. Абышоў ён навокал дрэва, узлез на яго і ўзяўся за лазьбаванне. Надзёр сотаў з мёдам ды ходу з сасны, бо надта ж пякуча джалілі пчолы. Ссунуўся ён з дрэва і давай па маладой ляшчыне ды ельніку шмыгаць, каб як-небудзь ад надакучлівых пчолаў адчапіцца.

Бегаў ён так, бегаў ды настраміў на ялоўцавы стрыжань нагу. Куштыкнуў мядзведзь раз, куштыкнуў другі і аж сеў ад болю.

Ужо і мёд яму нялюбы стаў, паклаў ён соты на мох, ды зубамі за стрыжань ухапіўся. Тузануў раз, тузануў другі — боль яшчэ мацнейшы, а стрыжань аніяк не паддаецца. Зароў мядзведзь з гора, аж пушча затрэслася.

Пачула гэты голас ліса, высунула нос на палянку і глядзіць, што з мядзведзем сталася.

Згледзеў яе мядзведзь ды як заенчыць-заспявае:

Бег я лесам гушчарком
настраміў я ножку стрыжаньком,
палекуй, ліска, мне нагу —
цябе я місай мёду спамагу.

Ліса, вядома, на мёд ласая, прыбегла да мядзведзя і стала яго лекаваць: ухапілася за стрыжань і ну цягнуць з усяе сілы. Тузанула раз, тузанула другі — стрыжань ні з месца, а мядзведзь як зараве, аж у лісы ў вушах залажыла. Адхацелася ёр і таго мёду ды з усіх ног яна — у ялліннік.

Пачуў гэты рык ды валтузню барсук, выглянуў з нары і пазірае, што на паляне дзеецца.

Заўважыў яго мядзведзь ды як заенчыць-заспявае:

Бег я лесам, гушчарком,
настраміў я ножку стрыжаньком,
палекуй, барсучок, мне нагу —
цябе я місай мёду спамагу.

Што і казаць, барсук надта ахвочы палізаць мёду. Прыдыбаў ён да мядзведзя, ухапіўся за стрыжань і давай цягнуць, што моцы ў зубах. Тузануў раз, тузануў другі — стрыжань ні з месца, а мядзведзь як зараве, аж на барсуку поўсць на карку

дыбам стала. Зрокся ён і таго мёду ды кулём даў нырца ў сваю нару.

Бачыць мядзведзь, што ніхто са звяроў яго бядзе не паможа. Склаў ён соты з мёдам на бярэмя і павалокся, куштыкаючы ды войкаючы, з пушчы ў поле.

У полі ж жніца пшаніцу жала. Сеў каля яе мядзведзь на сноп ды як заенчыць-заспявае:

Бег я лесам, гушчарком,
настраміў я ножку стрыжаньком,
палекуй, жнічка, мне нагу —
цябе я місай мёду спамагу.

Жанчына са страху аслупянела, аж серп з рук выпусціла. Глянула яна туды, глянула сюды — а ў полі нідзе ні душы. „Няма мне іншага ратунку, — падумала, — трэба мядзведзя лекаваць". Узяла серп, нажала на мяжы крываўніку, адарвала ад свайго фартуха льняную хусцінку ды падыходзіць да звера.

Калупнула яна сярпом стрыжань адзін раз — мядзведзь застагнаў, а стрыжань ані з месца, калупнула другі — мядзведзь заенчыў, але стрыжань напалавіну вылез, калупнула трэці — мядзведзь зароў, аж пошчак ад пушчы адбіўся, і стрыжань увесь вылез з раны. Расцерла жанчына крываўніку, прыклала да раны ды хусцінкай моцна абвязала.

Падскочыў мядзведзь ад радасці, схапіў соты з мёдам ды жніцы падае. Паела тая мёду ўдосыт, узяла серп ды пшаніцу жаць узялася. Мядзведзь жа пакланіўся ёй у пояс і паклыпаў сабе ў пушчу



## МАЦЮСЬ І САРОКА

У вёсачцы, з падворкаў якой відаць была стромкая сцяна Белавежы, жылі сабе бацька і маці, і былі ў іх тры сыны: два абібокі-гультаі, а трэці — Мацюсь.

Бывала, настане нядзелька або прыйдзе нейкае свята, павалакуцца абібокі-гультаі ў карчму або на фэст і аж на золку дамоў вяртаюцца. Потым спяць яны ўвесь наступны дзень покатам, што бацька з маткаю будзяць іх і не дабудзяцца, каб араць або касіць пайшлі.

Мацюсь жа працаваў на гаспадарцы з дня ў дзень, на нікога не аглядаючыся. Вясеннім ранкам спяшаўся з valamі, каб старанна завалачыце) свежа зааранае поле і пасеяць на ім пшано. Улетку бег на золаку на луг над пушчанскай рэчкаю, дзе трэба было скасіць сваю палоску травы. Узімку стараўся назапасіць столькі дроў, што іх хапала ўвесь год сядзець старым бацькам у цёпла напаленай хаце.

Пайшоў ён аднойчы ў асінавы маладняк, каб адну-дзве капы* тычак да фасолі ў агарод" нарэзаць. Не паспеў яшчэ і за працу ўзяцца, як пачуў, што непадалёк у бярэзніку сарока на ўсё горла крычыць-лемантуе. Мацюсь падышоў туды і бачыць: да сарочага гнязда куніца дабіраецца. А ў гняздзе маленькія, яшчэ без пер'я, сарачаняты са страху аж памлелі. Вядома, куніца на птушынае мяса надта падкая. Схапіў хлопец гольку ды і пагнаў яе ад гнязда як мага далей. Супакоілася сарока, ён жа нарэзаў гонкіх тычак, звязаў у пучок, ускінуў яго сабе на плечы і пайшоў дамоў.

Так жыў і працаваў Манюсь колькі год. Але вось памерлі бацька і матка. **Засумаваў**-заплакаў Мацюсь і па бацьках і над сваім незайздросным лёсам.

Пачаў ён усё часцей і часцей на магілкі бацькі і маткі прыходзіць і над імі пра сваё гора разважаць. Аднойчы стаяў ён так над магілкамі, а тут адкуль ні вазьміся прыляцела сарока, села на крыжы ды людскім голасам пытаецца:

— Чаму ты такі сумны, Мацюсь?

— З гора сумую, — кажа ён сароцы. — Татулька і матулька памерлі, браты на гаспадарцы нічога самі не робяць, мяне да працы гоняць ды есці не даюць.

— А ты не бядуй, — яму на тое сарока. — Памог ты мне, памятаеш, ад куніцы маіх дзетак-малалетак ратуючы, памагу і я табе. Пачакай тут.

Сказаўшы так, фыркнула з крыжа і знікла некуды.

Падзівіўся Мацюсь нейкі час на птушку, што чалавечай моваю гаворыць ды памятае пра такое, пра што ён і сам даўно забыўся. Але як плакаў ён над магілкамі бацькоў стоячы, так і плакаць не пераставаў. Ажно праз якісьці час прылятае зноў сарока, а ў дзюбе ў яе — залаты пярсцёнак. Паклала яна пярсцёнак перад Мацюсем і кажа:

— Ехала аднойчы гасцінцам каля пушчы нейкая знатная пані на вялікі баль. Баялася яна, што можа спазніцца, і ўвесь час фурмана пальцам у плечы парола, каб той хутчэй ехаў. Ад няспыннага паганяння фурман такі змораны быў, што ледзь на козлах трымаўся, а шасцярык стаеннікаў з апошніх сіл выбіваўся, пена з іх аж кавалкамі падала. Але ж пані не сунімалася і ўсё мацней ды мацней штурхала фурмана. І не заўважыла, як з яе пальца гэты пярсцёнак ссунуўся ды ў дарожны пясок упаў. Я над гасцінцам лятала і згубу знайшла. Ты вазьмі, прадай і за гэта харчы і адзевак купляць будзеш сабе.

Узрадаваўся Мацюсь, узяў пярсцёнак, падзякаваў і зрабіў так, як сарока раіла. І ўсё было добра да таго часу, пакуль ён гаспадарку ўсю прэч абрабляў ды за свае грошы харчаваўся і апранаўся. Але калі тых грошай не стала, браты гультаі-абібокі ўзялі і выгналі яго з роднай хаты.

Засумаваў Мацюсь моцна і пайшоў зноў на могілкі. Стаў над магілкамі бацькі і маткі ды плача, на сваю долю горкую наракае. Ажно з'явілася сарока, на крыжы села і пытаецца:

— Чаго плачаш, Мацюсь?

— Бач, — кажа ён, — пакуль я на гаспадарцы рабіў і за свае грошы карміўся ды апранаўся — усё добра было. А як грошы разышліся, браты выгналі мяне.

— А ты не сумуй, — яму на тое сарока. — Памог ты мне раз, памагу я табе два разы. У пушчы, у адным месцы на гасцінцы, калісьці разбойнікі на купцоў напалі, пабілі, аграбілі ды награбленае золата закапалі. Стражы Князевы тых разбойнікаў пералавілі і смерцю пакаралі, а золата і па сённяшні дзень ляжыць у зямлі пад прыдарожным каменем. Ідзі за мною, і я табе пакажу тое месца. Хопіць табе на тое, каб купіць уласную гаспадарачку.

Сказаўшы гэтак, паляцела сарока ў пушчу, а за ёю пабег подбегам Манюсь. Прыляцела птушка на ўскрай гасцінца, села на дуплястым дубе і паказала паспеўшаму туды Мацюсю на прыдарожны камень. Адкаціў той аберуч камень, разгроб зямлю ды бачыць: гладыш змуршэлы, а ў ім паўным-паўнюсенька золата. Нагроб ён поўныя кішэні, падзякаваў сароцы ды падаўся дахаты.

Купіў Манюсь сабе гаспадарку, каня, воз, кароў прыдбаў ды авечак і стаў жыць прыпяваючы, бо і сам быў надта шчыры да працы.

Жыў ён так сабе шчасліва, але даведаліся пра гэта яго браты гультаі-абібокі і з'явіліся раптам на

Мацюсевым падворку.

Ты_____кажуць, — употайку ад нас бацькавы грошы прысвоіў і іх коштам разбагацеў і сядзіш сабе тут, як почка ў сале. Мы ж гібеем у старой халупіне, жывіна ўся перавялася, поле ды луг карчамі зараслі.

Колькі ні тлумачыў ім Мацюсь, як не пераконваў, адкуль у яго багацце ўзялося, усё ж браты не паверылі, самі селі на Мацюсевай гаспадарцы, а яго прагналі на бацькаўшчыну.

Зайшоў Мацюсь на бацькаў падворак, глянуў — і аж сэрца кроўю аблілося Клунька без страхі ўжо ў парахно абярнулася, хлеў і свіран на гнілых падрубах пакасіліся і вось-вось разваляцца, хатка па вокны ў зямлю ўрасла.

Засумаваў Мацюсь моцна і пайшоў на могілкі. Стаў над магілкамі бацькі і маткі ды плача, свой лёс праклінае. Прыляцела сарока, села на крыжы і пытаецца:

— Чаго бядуеш, Мацюсь?

— Над сваім няшчасным лёсам бядую, — кажа той. — Выгналі мяне браты з мае гаспадарачкі на бацькаўшчыну. А тая бацькаўшчына — ні кала ні двара, усё згніло ды карчамі зарасло.

— А ты не кляні, — кажа птушка. — Памог ты мне раз, памагу я табе ў трэці раз, але ўжо апошні. Пайдзі ў камору бацькавай хаты ды пакапайся там у вуглу. Калісьці-пракалісьці кароль у пушчу на паляванне прыязджаў, а твой прапрадзед у нагонку хадзіў. З вялікай небяспекай для свайго ўласнага жыцця нагнаў каралю пад самую стрэльбу аграмаднага зубра. Кароль зубра ўпаляваў, а пагоншчыку некалькі залатых манет кінуў за добрую службу. Прапрадзед гэтых грошай не распусціў, але на чорную гадзіну прыхаваў у каморы. Вось яны і ляжаць гам па сённяшні дзень.

Абрадаваўся Мацюсь, пайшоў дадому. У кутку каморы знайшоў кубачак, а ў ім некалькі манет залатых. Хапіла іх толькі на тое, каб купіць дрэва на будынкі, заплаціць майстрам за работу ды крыху дабытку набыць. Сам жа Манюсь працаваў, адпачынку не ведаючы: поле выкарчаваў, сенажаць расчысціў, дабытку развёў. Ажаніўся, і сталі яны з жонкай жыць шчасліва ды пажываць і дзетак гадаваць.



## ПРА ПУШЧАНСКІХ ПТАХАЎ І КАРАЛЕЎСКУЮ БАРАДУ

Жылі-былі ў адным сяле два родныя браты: Сымон быў багаты грашмі, а Іван — дзяцьмі. Жылі яны так ды пажывалі: з кожным годам багацеў Сымон, а з кожным днём бяднеў Іван. Дажыўся Іван да таго, што яго сямейцы і на зуб не было чаго пакласці і цела чым агарнуць.

Вось і кажа ён сваёй сямейцы:

— Пайду я ў свет, мо дзе хлеба раздабуду або грош які прыдбаю. Не паміраць жа нам з голаду ды холаду.

Развітаўся ён з жонкаю і дзяцьмі ды падаўся з хаты. Ішоў ён дзень, ішоў увесь, ішоў ад золаку і да змяркання ды ўсё лесам. Не заўважыў, як і ноч яго насцігла. Кінуўся Іван у адзін бок, кінуўся ў другі, але нідзе ніякага людскога жылля не відаць. І не на жарт апанаваў яго страх, бо як жа ж адзінокаму чалавеку ў дзікай пушчы начаваць? Думаў ён, думаў, як тут ночку скаратаць ды і дадумаўся. Узабраўся ён на самае высокае дрэва, прымасціўся на тоўстай галіне і, абняўшы аберуч камель, драмаць ужо пачаў.

Дрэмле ён так сабе, на галіне седзячы, ажно чуе: прыляцелі птушкі і селі на вершаліну таго ж дрэва. Пашамацелі, пашамацелі і раптам адна з іх людскою моваю кажа:

— Ці чулі вы, што ў нашага караля рассыпалася барада? Кажуць, як хто-небудзь знойдзе на гэта лякарства, дык кароль яго золатам абсыпле.

— Шмат хто ўжо прабаваў лячыць, — ёй на тое другая птушка, — але нічога не памагае: каралеўская барада стала такая рэдкая, што волас ад воласу — не чуваць і голасу.

— Бо не ведаюць таго цудадзейнага зелля, што кусціцца вунь пад дубам, — кажа трэцяя птушка.

— А дуб той расце на гары ў самым сэрцы пушчы.

Пагаварылі птушкі так, пагаварылі і сабраліся ды паляцелі сабе некуды.

Прадрамаў Іван на дрэве колькі часу, а як толькі неба заружавела, спусціўся ён на зямлю і пачаў шукаць той дуб у сэрцы пушчы.

Шукаў ён доўга-доўга. Усю пушчу схадзіў уздоўж і ўпапярок. У такую глухамань убіўся, што свету не відаць, адно ўсюды буралом ды вываратні спарахнелыя і пад імі рознае гадаўё поўзае ды шыпіць. Кінуў ён вокам управа, кінуў улева і заўважыў, што там, удалечыні, нейкі просвіт у пушчы паблісквае. Прабіўся неяк ён туды і бачыць: дуб велізарны на пагорку стаіць, а вакол дуба дзіўнае дробненькае-драбнюсенькае зеллечка кучаравіцца так густа-гусценька, што з-пад яго і зямлі не відаць.

Назбіраў Іван таго зелля цэлае бярэмя і да выхаду з пушчы накіраваўся. Доўга ці коратка блукаў ён па лясных нетрах, але ж урэшце рэшт выбраўся на скрай пушчы і ўздыхнуў з палёгкаю.

Адпачыў крыху Іван, паправіў свае стаптаныя лапці ды перавязаў аборы на штанінах і паплёўся ў сталіцу, дзе быў каралеўскі палац.

Не дзень і не тыдзень, але ўвесь месяц дыбаў Іван у далёкую сталіцу. Калі ўжо зайшоў туды, адразу ў каралеўскі палац падаўся ды і кажа так і так: „Маю, значыць, лякарства на паратаванне каралеўскай барады". Тут яго зараз жа прыдворныя слугі ў пакоі завялі і пра ўсё як мае быць дакладна распыталі. Дзівоснае пушчанскае зелле памацалі, панюхалі ды на язык паспрабавалі. Не паспеў Іван і апамятацца, які зелле запарылі, працадзілі ды навар каралю занеслі.

Як абмакнуў кароль бараду ў тое лякарства першы раз, так усе прыдворныя і ахнулі — апошнія валасінкі і тыя з яе павылазілі. Калі "ж абмакнуў другі раз — барада мяккім пушком, быццам галоўка немаўлятка, пакрылася. Як жа ж абмакнуў трэці раз — каралеўская барада пышнаю кудзеляю закучаравілася.

Зарагатаў кароль ад радасці ва ўсё каралеўскае горла, а прыдворныя паны і пані ў далоні ад шчасця запляскалі ды тоненькімі галаскамі запішчэлі.

І загадаў кароль паклікаць Івана перад сваё аблічча.

— Ну, — кажа, — маладзец ты, Іван. Гонар усяго нашага каралеўства ўратаваў, бо сам ведаеш: чаго варта каралеўская барада! За гэта я цябе, як след узнагароджу, — і пагладзіў сябе па пышнай барадзе.

Насыпаў кароль Івану мех золата ды фуру іншага дабра дараваў. Пасадзілі яго каралеўскія слугі ў залачоную карэту ды прыкацілі з усім багаццем у родную вёску. І стала Іванава сямейка жыць у вялікай раскошы.

Сымон жа ад зайздрасці аж пахудзеў і пачарнеў на Іванава шчасце гледзячы. Не стрываў, прыйшоў аднойчы да брата і пытаецца: „Дзе ж грта ты, браток, такое шчасце раздабыў?" А Іван яму ўсю праўду сказаў ды параіў: „Ідзі і ты ў пушчу, узлезь на дрэва, пушчанскія птахі і табе добрай парады не пашкадуюць".

Пайшоў Сымон у пушчу, узабраўся на самае высокае дрэва і стаў чакаць змяркання.

Як толькі сцямнела, з'явіліся тры птушкі, селі на вершаліне і адна з іх кажа:

— Ці бачыце вы, якая страшная хмара сюды ідзе?

— Ох і грымоты ды перуны біць будуць! — усклікнула другая. — Бура не мала лесу вылажыць.

— Уцякайма! — крыкнула трэцяя.

Узвіліся яны і паляцелі.

Сымон жа тырчма з дрэва ссунуўся ды бягом дахаты.

І праўда: тады навальніца многа лесу вылажыла, а тое дрэва, на якім Сымон сядзеў, пярун на дробненькія кавалкі пашчапаў.

Так вось каралю рассыпаная барада адрасла, бедны Іван стаў у раскошы жыць, а зайздроснага Сымона яшчэ мацней зайздрасць грызць пачала.



## ПРА СІВУЮ ЗЯЗЮЛЮ, ЛАСТАЎКУ І САЛАЎЯ

Хто з нас не ведае кукавання зязюлі, шчэбету ластаўкі і пошчаку салаўя? Усе мы любім гэтых птушак, а людзі кажуць, што салавей прылятае к нам з цяплом, ластаўка з лістом, зязюля ж з поўнай квеценню. Спевы іх надта любы нам. І хоць яны розныя, але калі ў іх уважліва ўслухацца, дык няцяжка заўважыць, што чуваць у іх нейкі сум. Вось пра гэты сум і будзе наша казка.

Было ж гэта вось як.

Аднойчы пайшлі вясковыя дзяўчаты . купацца ў лясную рэчку. Выкупаліся, выїяЦлі на бераг і пачалі апранацца. Адна з дзяўчат ^адыходзіць да свае вопраткі і бачыць: наvfią Сукенцы аграмадны вуж ляжыць. Перапужалася яна моцна, але калі супакоілася, схапіла гольку і давай вужа з адзежыны гнаць. Вуж жа падняў голаў, паглядзеў на яе ды чалавечай моваю кажа*

— Калі згодзішся выйсці за мяне замуж, тады

аддам тваё адзенне.

Дзяўчына аж анямела ад такой нечаканасці і, не падумаўшы, згадзілася:

— Добра, — гаворыць, — выйду.

Пачуўшы такое, споўз вуж з вопраткі і папоўз у надрэчныя чароты.

Апрануліся дзяўчаты, расчасалі косы, заспявалі вясёлую песеньку і пайшлі ў сваё сяло. Не спявалася толькі адной той дзяўчыне, нейкая трывога ў яе сэрца закралася. Прыйшла яна дамоў, села на лаве, абаперлася локцем на край стала ды задумалася.

Заўважыла сум на доччыным твары маці і пытаецца:

— Што з табою, доню?

А дачка так і так, расказала ёй пра ўсё, што каля рэчкі здарылася.

Спачатку маці перапалохалася, але потым, падумаўшы, усміхнулася і кажа:

— Кінь сумаваць, яшчэ такога на свеце і чуваць не было, каб вуж ды з дзяўчынаю ажаніўся.

Хоць дачка крыху і павесялела, але размова з вужом усё ж ёй з галавы не выходзіла.

Прайшло колькі часу, аж аднаго летняга дня бачаць яны, як у бок іхняй хаты паўзе аграмадная чарада вужоў, а наперадзе яе адзін самы найбольшы.

Здагадалася дзяўчына, што гэта такое, прытулілася пабялеўшая ад жаху да матчыных грудзей, горка заплакала:

— Ой, матулю, гэта ж мой суджаны са сваёй вясельнаю дружынаю па мяне ідзе!..

Кінуліся яны абедзве ў хату і хутчэй — на засаўку.

Вужы абпаўзлі вакол хаты, але нідзе дзіркі ў сярэдзіну яе не знайшоўшы, сабраліся ў агародчыку перад акном, дзе дзяўчыніна рута расла, і нешта між сабою зашыпелі.

Раптам адзін з іх скрунуўся ў пружыну, узвіўся ў паветра і як трахне ўсім целам па акне! Пасыпаліся шыбы, павыляталі і рамы. Упаўзлі вужы ў сярэдзіну хаты, знайшлі схаваную за печчу дзяўчыну і забралі яе з сабою.

Галасіла маці, плакаў бацька, сумавалі родзічы, але міналі дні і месяць^^праходзілі гады і памяць пра дзяўчыну пачала занікаць.

Але ж аднаго разу пайшла маці да крыніцы па ваду і бачыць: ад рэчкі ідзе яе дачка з двума дзяцьмі, хлопчыкам і дзяўчынкаю-; Усцешыліся яны, у абдымкі кінуліся, цалуюцца, аД радасці плачуць. А калі ўжо нацешыліся, на сябе гледзячы, маці і пытаецца ў дачкі:

— Дзе ж ты жывеш, доню, і дзе твой муж?

— Жывем мы ў вадзяным царстве., матулю, а муж мой дома застаўся.

— А ці хоць добры ён? с

— Вельмі добры і дзяцей надта ж любіць.

— А як жа ж ты цяпер вернешся Да яго?

— Вельмі проста: зайду на бераг рэчкі ды крыкну: „Восіп, выйдзі і вазьмі мяне!" Ён зараз жа выплыве з вады і забярэ нас.

Пагаварылі яны так, пра здароўе родных распыталі, дачка і кажа:

— Пара ўжо на нас, трэба вяртацца дахаты.

Маці ж пачала прасіць яе:

— Век цябе не бачыла я, бацька таксама па табе вочы выплакаў.

І ўгаварыла дачку пайсці з дзяцьмі ў сяло і пераначаваць.

Прагаварылі яны з бацькам і маткаю аж да трэціх пеўняў. І стала матцы шкада, што яе дачка ды з такімі прыгожымі і разумнымі. дзяцьмі да нейкай там вужакі вяртацца жыць мусіць. КаЛі ўсе пасну-

лі, узяла яна сякеру і пайшла на рэчку.

Стала на беразе і крыкнула:

— Восіп, выйдзі і вазьмі мяне!

Ускалыхнулася вада, і з яе вынырнула вужачая галава. Маці размахнулася і цяхнула па ёй сякераю.

Забушавала рэчка, забурліла, а маці вярнулася дахаты, нічога нікому не сказала ды лягла спаць.

Сабралася дачка з дзяцьмі дадому. Зайшла на бераг рэчкі-ды атрупянела ад роспачы: закрываўленая мужава галаву на хвалі гойдаецца, далей жа яго мёртвае цела плавае.

Заламала яна рукі, заплакала:

— Жыць мне цяпер удованькай бяздольнаю, — прычытала, — а вам, дзеткі, быць вечнымі сіротанькамі бязроднымі.

Заплакалі дзеці бацькаву смерць бачачы.

Схілілася іх маці Да рэчкі, далонню вады з мужавай крывёй пачарпнула, на сябе ды на дзяцей ёй пырснула. І абярнуліся яны ў птушак: маці ў шэрую зязюльку, дачка ў чорнапёрую ластаўку, а сын у маленькага салавейку.

Ластаўка і салавей штогод уюць сабе гняздзечкі і дзетак у іх выводзяць, а зязюля сабе гнязда не ўе, вечнаю ўдавою па пушчы кружыць. А ў спевах іх заўсёды гаротны сум па бацьку і мужу чуваць.



# КОНСКІЯ ГОРЫ

Каля самай пушчы жыў-быў адзін селянін. Сваё поле-ляда выцерабіў ды выпаліў ён у такіх пушчанскіх нетрах, што ніхто туды дарогі не ведаў. А ўсё гэта дзеля таго, каб каралеўскія цівуны*) туды не трапілі, поля не абмерылі ды непасільнымі падаткамі яго не абклалі.

Аднойчы веснавой раніцай уздзеў ён ярмо*) на сваю пару валоў, ускінуў сошку на звалокі*) ды кажа сыну:

— Глядзі, сынку, каб ты мне полудзень на поле прынёс.

Сын яму на тое:

— Рады б я, татку, прынесці, ды на поле не траплю — у гушчэчы заблуджуся.

— А я вазьму гарліну*) саломы, — гаворыць яму бацька. — Буду па дарозе саломаю трусіць. Ты і пойдзеш гэтым следам.

Сказаў так ды і пагнаў валы з падворка.

Наварыла маці кіслай капусты са старым салам, ячменнага куляшу на малацэ і праснакоў*) напякла. Капусты і куляшу наліла ў дваяны*), праснакі ў хусцінку загарнула. Клікнула сына, што на падворку з сабакам забаўляўся, і кажа:

— Нясі, сынку, не баўся ды не будзь разявай, каб дзе стравы не выліў і да бацькі ўчас зайшоў.

Узяў хлопец у руку дваяны, а праснакі За пазуху засунуў і падаўся з двара ў пушчу.

Ідзе ён так, ідзе сцяжынкаю, на салому зважаючы, ціхенька сабе пасвістае, на пушчанскіх птушак ды звяроў прыглядаецца. Прыемна яму бачыць, як markup:розначвецце да ласкавага сонейка свае каляровыя вочкі наставіла, і слухаць радасны птушыны гоман. Аж раптам заўважае ён — няма саломы!

Кінуўся ён управа, кінуўся ўлева, бегаў уперад і назад — нідзе ніводнага каліўца саломкі. Стаміўся ды зусім з толку збіўся. Сеў на вываратзень і горка заплакаў.

Плача хлопчык, бядуе, ажно чуе — нешта ў пушчы трэснула, быццам сухапад пад чалавечаю нагою. Глянуў ён у той бок — выходзяць з-за разгалістай елкі дванаццаць асілкаў-малайцоў. Падыйшлі бліжэй, абкружылі вываратзень, а старэйшы сярод іх і пытаецца:

— Чаго плачаш, хлопча?

Той ім так і так: бацьку абед на ляда нёс, маўляў, ды ў пушчы заблудзіўся.

— Выведзіце мяне, дзядзечкі, на сцежку, — пачаў ён прасіць асілкаў-малайцоў. — Там на лядзе татка ад самага ранку арэ, напэўна ўжо вельмі прагаладаўся.

— Ні да бацькі, ні да маткі цябе, хлопча, мы ўжо не пусцім. Будзеш жыць з намі, разбойнікамі-малайцамі, — сказаў яму на тое старэйшы.

Закалацілася ад жаху хлапечае сэрца. А тут яшчэ на дадатак разбойнікі завязалі яму вочы ды павялі некуды. Што ж, воляй-няволяй прыйшлося ісці. Вялі яго ці доўга, ці коратка, аж увапхнулі ў нейкае жыллё і вочы развязалі.

Бачыць хлопец: будыніна прасторная, з дубовага бярвення сцены, пасярэдзіне печ вялізная, а за ёю палаці*) шырокія з цісовых*) дошак цесаных ды рознымі звярынымі шкурамі ўсланыя.

— Вось тут будзеш жыць і нам служыць: ежу варыць ды нашу святліцу прыбіраць, — паведаміў хлопцу старэйшы разбойнік. — Адно ўцякаць не прабуй, бо калі цябе ў пушчы туры і зубры рагамі не забадуць або мядзведзі і ваўкі жыўцом не разарвуць, то мы напэўна зловім і на дубе павесім. І ў тую камору, што вось за сямю засаўкамі не заглядай, бо адразу згінеш.

Сказаўшы гэтае, навастрыў ён нож і з хаты некуды разам з іншымі падаўся.

Сеў хлопец на лаве і жаласней ранейшага заплакаў. Плача ён, плача і раптам чуе: нехта ў той каморы за сямю засаўкамі жывы ды бойкі ў дзверы ламаціць і чалавечым голасам адзываецца:

— Не плач, хлопча, не бядуй. Адчыняй смела дзверы ў гэтую камору, мо разам з табой нашай супольнай бядзе дапаможам.

Хоць надта ж баяўся хлопчык, але ўсё ж набраўся адвагі і, адсунуўшы сем з жалеза кутых засавак, у камору зазірнуў. І бачыць: там буланы конь-прыгажун стаіць.

— Не бойся ты мяне, — кажа конь. — Мы з табою ў аднолькавай бядзе апынуліся. Абодвух нас разбойнікі сваімі нявольнікамі ўчынілі. Мяне ўжо тры гады трымаюць за гэтымі сямю засаўкамі, цябе таксама гэта чакае. Давай будзем ратавацца. Бяры вось гэтыя тры яблыкі, што ляжаць на паліцы, адчыняй насцеж дзверы ды выводзь мяне з каморы.

Сунуў хлопец яблыкі сабе ў кішэні, расчыніў шырока ўсе дзверы. Скочыў у іх конь на падворак, а за ім і хлопчык выбег.

— Цяпер накармі мяне, — кажа буланы.

Кінуўся хлопчык у свіронак, што стаяў на падворку. Насыпаў з сусека каробку аўса, прынёс каню.

— Пакуль я буду сілкавацца, ты пачысці мяне, — папрасіў стаеннік.

Знайшоў хлопчык згрэбла і шчотку і давай асцярожна, але старанна чысціць шаўкавістую шэрсць на кані. Чысціў-чысціў, аж бокі конскія блішчэць пачалі. Да гэтага часу конь і каробку аўса апарожніў.

— Садзіся цяпер на мяне, — кажа стаеннік. — Наша няволя скончылася.

Узлез хлопец на конскую спіну, ухапіўся аберуч за грыву, а той з месца ірвануў і стралою паімчаў цераз пушчу.

Ляцяць яны так, ляцяць, аж чуе хлопец: зямля за імі стогне, пушча трашчыць ды побач кап'ё ў дубовы камель упілося. Азірнуўся хлопец, убачыў, што за імі дзееца і кажа каню:

— Ой, зубры з турамі, мядзведзі з ваўкамі ды яшчэ разбойнікі на дадатак за намі гоняцца!

— Не палохайся, хлопча, — супакоіў яго конь. — Кінь адзін яблык.

Кінуў хлопчык яблык, і адразу за імі дрыгвяная багна прасцерлася.

Скочыла пагоня ў багну, і ўся адразу пагразла. Туры ды зубры пабоўталі сваімі капытамі ў дрыгве і павярнулі назад. Затое ваўкі з мядзведзямі і разбойнікі пачалі з купіны на купіну пераскокваць і цераз дрыгву прабірацца.

Імчапь конь з хлопчыкам далей ды бачаць: мядзведзі з ваўкамі і разбойнікі цераз багну перабраліся і зноў іх наганяюць.

— Кідай другі яблык, — загадвае конь.

Хлопчык кінуў яблык, і ў гэты момант разлілася за імі шырокая і бурлівая рака. Падбегла пагоня да яе і затрымалася. Мядзведзі і ваўкі скочылі ў раку ўплаў, але пачулі глыбокую ды вірыстую ваду і павярнулі назад да берага. Разбойнікі ж звязалі колькі бярвенняў ды жэрдак у плыт, скочылі на яго і паплылі да другога берага.

Едуць конь з хлопчыкам, едуць цераз пушчу і заўважаюць: разбойнікі пераплылі цераз раку і за імі наўздагон бягуць.

— Кідай трэці яблык, — кажа конь хлопцу.

Хлопец кінуў трэці яблык, і за імі высокая гара вырасла. Сталі па ёй разбойнікі чарэпкацца, але ніяк на верх узабрацца не могуць. Сарваўся адзін з гары, упаў і нагу зламаў, другі ўпаў — руку выкруціў, трэці ўпаў — бок пастраміў. Так усе яны там перакалечыліся, але на гару не ўзабраліся. Валакуцца назад ды адзін вохкае, другі енчыць, трэці стогне і вярнуліся яны ў сваю лясную хату ні з чым.

Хлопец жа і конь едуць шчаслівыя і вясёлыя, свабодай сваёй цешачыся. Выехалі з пушчы на нейкую паляну і бачаць: селянін поле арэ, на лянівых валоў пакрыквае і стомленай рукою краплісты пот з лоба выцірае.

— Тата, татачка! — закрычаў хлопец, саскочыў з каня і да бацькі пабег. А конь глянуў на іх, махнуў хвастом, заіржаў на развітанне і паімчаўся некуды ў шырокі свет, аж у яго грыве вецер засвісцеў.

— Ну, сынок, доўга ты дома бавіўся, — з дакорам сказаў бацька.

Хлопец у сваё апраўданне аб незвычайнай прыгодзе расказаў.

— Можа гэта і мая віна, — заўважыў бацька. — Недзе ў паўдарогі прыкмеціў я, што да самага ляда мне саломы не хопіць і пачаў я надта рэдка па адной саломцы на зямлю кідаць. Відаць, гэтыя саломкі ў густым ягадніку ды траве загубіліся або зверы пушчанскія ў свае норы гіаўцягалі. Ты ўсё ж трапіў сюды, і гэта вельмі добра. Ну, давай хутчэй есці.

Схамянуўся хлопец, а дваяны з капустай ды куляшом у разбойніцкай хаце асталіся ж! Сунуў ён руку за пазуху, выняў адтуль жытні праснак і падае бацьку. Бацька разламаў праснак на два кавалкі, адзін сыну даў, а другі сам пачаў жаваць. Так папалуднавалі яны адным сухім праснаком ды за работу ўзяліся. Бацька, узяўшыся за поручкі, пайшоў за сахою, а сын валы паганяў.

Даўным-даўно гэтае здарэнне было, шмат што і забылася з яго. Толькі дагэтуль у паўднёвай частцы Белавежскай пушчы багна Тапілам называецца, рэчка — Пярэбеллю, а пагоркі — Конскімі гарамі.

Спытаецеся: „А дзе ж тое ляда, што бацька з сынам сахою аралі, цяпер знаходзіцца?" А хто ж яго знае, а хто ж ведае?! Дрэвамі яно зарасло, мох яго ўслаў і стала яно, як уся пушча. Гэта ж было даўным-даўно.

# КАЛІ ПУШЧУ СЦЕРАГЛІ АСОЧНІКІ





# ЧУЖАЗЕМНЫ ШАВЕЦ

Многа вады ў Нарве сплыло, калі гэта было. Жыў тады ў адным сяле асочнік гетралец*). Жыццё-быццё асочніка не зайздроснае: ад золаку і да змяркання ўсё ў пушчы. Што ж, служба — не дружба, асабліва, калі чалавек на дзяржаўнай пасадзе. Пушча ж належала каралю. Па яго загаду асочнікі сцераглі яе ад сялян з навакольных вёсак, што дровы ды матэрыял на будынкі і розныя гаспадарчыя прылады былі ахвочыя ўкрасці, і ад паляўнічых, якія, ціхачом у пушчу прабраўшыся, пасткі розныя на звяроў ставілі або з рагацінаю ці гакоўніцаю*) жыўнасць здабывалі. Паляваць жа ў пушчы меў права толькі кароль і яго прыбліжаныя. Калі асочнік злавіў ляснога злодзея, дык цягнуў яго на пакаранне ў казню*) ў Бельск. Як сам нешта правочыў, то яго самога туды ж каралеўскія стражы валаклі.

Так і жыў той асочнік-стралец: ноч пагнала ды ноч прыгнала. Ішоў ён аднойчы па свайму абходу і думаў, як там дома жонка з малымі дзяцьмі гаспадарцы раду дае.

Якраз папярэдняй ночы выпала пароша*). На свежым снезе, як на далоні, асочніку ўсё відаць было. Вунь паспешліва заячыя сляды на лужку параскіданы, а за імі пралеглі ўпэўненым ланцужком лісіныя. Тут зноў статак дзікоў з малымі прабег, не інакш, з начнога жыравання*) ў дуброве раніцай у ельнікавы гушнар спачываць падаваўся.

Але што гэта?! Нейкія дзіўныя сляды ў бок ельніку павялі. Затрымаўся каля іх асочнік, і розныя здагадкі яму ў галаў пачалі прыходзіць. Спачатку ён падумаў, што гэта ў яго абход стары мядзведзь завандраваў. „Не інакш, нехта разбудзіў звера з зімовага сну, вылез той з бярлогі і цяпер будзе ўсю зіму па пушчы валачыцца. Надта ж небяспечны ён і для іншых звяроў і для чалавека", — падумаў асочнік і асцярожна пайшоў за следам. Ідзе так ён, ідзе і дзівуецца: не столькі на мядзвежы, колькі на людскі гэты след падобны ды пакінуў яго нехта, што па снезе басанож ішоў! Яшчэ асцеражней ідзе асочнік па дзіўных слядам у ельнікавы гушчар і

раптам бачыць: пад разгалістаю елкаю сядзіць чалавек голы-галюсенькі, пасінеў увесь, ад холаду зубамі ляскае.

Асочнік і пытаецца яго:

— Хто ты, чалавеча!

А той глядзіць на яго благальным зрокам, мармыча нешта, што і зразумець немагчыма, і на асочнікаў кажух паказвае. Здагадаўся асочнік, што галышу ад холаду мову адняло. Зняў ён з сябе кажух, захінуў у яго чалавека. Сам жа назбіраў рознага ламачча ды сухастою, скрасаў іскру на губу*) і раздзьмухаў агеньчык.

Голы адагрэў пад кажухом ды каля агню сваё адубеўшае цела, пасілкаваўся тым, што ў асочнікавай торбе знайшлося, і давай расказваць.

— Бач, добры чалавеча, — кажа ён, звяртаючыся да асочніка, — якое няшчасце мяне спаткала. Гэта ж ехаў я з далёкага ўсходняга краю з дарагім таварам — поўныя саквы*) саф'яну*) паням ды панам на боцікі вёз. Колькі месяцаў па пустынях, горах ды стэпах чужаземных бадзяўся і ніхто мне нічога злога не зрабіў. Тут жа, каля роднай хаты, можна сказаць, напалі на мяне разбойнікі, забралі ўсё, нават з адзежы і абутку абдзерлі ды пакінулі ў пушчанскай нетры звярам на спажыву. Відаць, тое яно і будзе, калі ты, мілы чалавеча, не паратуеш мяне.

Злітаваўся асочнік над чалавекам, узваліў яго сабе на плечы ды панёс дамоў.

Як убачыла асочнікава жонка, хто з мужавага кажуха выкаціўся, дык на ўсю хату заенчыла-заламантавала:

— А людкове, а мілыя! Свае дзеці з голаду пухнуць, увесь год з лебяды ды на крапіву перабіваючыся, а ён чужога ды яшчэ голага ў хату прывалок!..

Слухаў-слухаў голы чалавек гэтыя наракання ды і кажа:

— Гаспадынька любая, лапцікі вашыя, як відаць, зусім разваліліся. Дайце я іх падладжу.

Змоўкла жанчына, глянула недаверлівым вокам на галыша і сунула яму свае стаптаныя хадакі.

Той захадзіў-закруціўся па хаце, увесь хлам, што на падстрэшшы валяўся, перакапаў ды перабраў, сякі-такі інструмент знайшоў, пастукаў ім і пад вечар падае гаспадыні не хадакі-пасталы, а такія камашкі, што аж глянуць люба. Абула яна іх, топнула, адбіла звітнага галубце, сваё далёкае дзявоцтва прыгадаўшы, і ад задавальнення аж засмяялася. За ноч галыш і асочніку боты наладзіў і дзецям абутак спраўляць пачаў. На раніцу ўжо і малыя і старыя ласкавым вокам на яго глядзець сталі, сякую-такую адзежыну далі і разам снедаць пасадзілі.

Як толькі па сняданку асочнік, як штодня, у пушчу падаўся, а шавец прысеў да капыла, гаспадыня новыя боцікі ўсклаўшы; з канца ў канец па ўсім сяле разнесла, якога гэта майстра яе муж з пушчы ў кажусе прынёс.

І пачалі ў асочнікаву хату адусюль людзі за абсталяваннем валіць, што і дзверы не зачыняліся. І дабра рознага нясуць, і грошай — у асочнікавай жонкі ажно сэрца радуецца. Шавец жа на зэдліку*) сядзіць ды малаточкам па капыле пастуквае. А як пастукае, што ні глянь — новыя боты з яго рук сыходзяць. Ды адны ад другіх прыгажэйшыя.

Прыйшла аднойчы да шаўца старэнькая бабулька і сабе на смерць лапцікі заказала. Надвячоркам па абсталюнак прыходзіць, а майстар, замест лапцяў ліпавых, падае ёй чаравічкі ладныя ды кажа:

— Не ўміраць вам, бабка, а жыць доўгія гады ды пажываць. Не адну пару такіх чаравікаў вы яшчэ стопчаце!

Узрадавалася бабулька, што і куды. Шчодра майстру заплаціла ды пабегла па сяле ў новых чаравіках, быццам ёй сама меней пяцьдзесят год убавілася.

Хутка слых пра незвычайнага майстра і да пана дайшоў. Пасылае ён слугаў, каб прывезлі яго ў палац. Паімчаліся слугі ў вёску, ускочылі ў асочнікаву хату, схапілі шаўца і паскакалі з ім да пана. Той прыгледзеўся пільна да майстра і кажа:

Чуў я, што ты ладныя боты шыць умееш. Пашый мне таксама, але такія, каб былі дастойны мае панскае асобы.

Паслухаў шавец пана, пільна паглядзеў на яго твар і, пакорліва схіліўшыся, паабяцаў:

— Добра, паночку, пашыю такія, якія табе патрэбны.

З панскае нагі мерку зняў і назад у асочнікаву хату пайшоў.

Прыязджаюць на другі дзень панскія слугі па абсталюнак, а шавец і падае ім абутак, як належыцца для знатнага заказчыка, у хусцінку загорнуты. Схапілі яны клунак, не заплаціўшы і дзякуй не сказаўшы, ды пагналіся ў палац.

Пан разгарнуў клунак, а там — лапці ліпавыя, што звычайна пакойніку абуваюць! Як жа ж усхадзіўся са злосці пан, як жа ж забегаў па пакоях, як жа ж раскрычаўся ды раптам абмяк і мёртвым на кавёр абсунуўся.

І так якраз у пару прыйшліся тыя ліпавыя лапці пану.

Жылі вось так ды пажывалі доўга ці коратка чужаземны майстар з асочнікавай сям'ёю. Асочнік пушчу сцярог, дзеці на вуліцы гулялі, а асочнікава жонка, бы пані, на ладнай гаспадарцы хадзіла і ў абноўленай хаце штодня пшанічныя блінцы на масле пякла.

Але стукаў-стукаў шавец малаточкам па капыле ды аднойчы кажа асочніку:

— Здаецца, добры чалавек, што я ўжо адплаціў табе за ўсё: і ўратаванне мяне, і вопратку і харчаванне. Добра мне было ў тваёй сям'і жыць, але пара і час ужо ў свой родны кут падацца.

Падзякаваў ён асочніку і сям'і, развітаўся і ў шлях-дарогу падаўся. І толькі памяткі па ім засталося, што ўся тая ваколіца ў прыгожых чаравіках яшчэ доўга-доўга хадзіла.



# МІХЕЕВЫ ПРЫГОДЫ

Аднойчы ўзімку вечарам вярнуўся Міхей з пушчы, дзе ўвесь дзень шосткі*) ставіў. У воблаку пары ўваліўся ў хату, распрануўся, зняў заскарэлыя ад марозу пасталы ды ўзабраўся на цёплы запечак. Жонка ж якраз гаршчок варанага гароху з печы даставала, насыпала ў верцеху, уваткнула ў яе драўляную лыжку, падала ежу Міхею, а сама, сюды-туды закруціўшыся, да суседкі на пасядзелкі пабегла

Еў Міхей той гарох, еў колькі часу, а калі ўсю пасудзіну апарожніў, заўважыў, што адна гарошына з лыжкі ўпала на зямлю ды пакацілася пад лаву. Не паспеў ён і лыжкі з рота высунуць, як гарошына на глінабітай падлозе ўзышла, пачала расці і зараз жа сцябліна ў лаву ўперлася. Адсунуў Міхей лаву, а гарох, як бач, ужо і да полапа дастае. Тады ўзяў ён сякеру, прарубаў дзірку ў полапе, а сцябло тымчасам ужо ў страху ўтыркаецца. Прадзёр ён страху, а гароху тое і трэба: шугае, віецца аж да неба. Глянуў Міхей на такое дзіва, паскроб патыліцу ды і кажа:

— От жа ж нагода мне, беднаму, надарылася! Палезу я па гарошыне на неба ды гляну, што там дзеецца?

І, нядоўга збіраючыся, абхапіў ён аберуч сцябло ды палез уверх.

Лез ён так, лез ды як трэсне галавою ў нешта цвёрдае — аж яму ў вачах зоркі замігацелі. Мацнуў Міхей рукою раз:

— Так яно і ёсць — неба! — усклікнуў ён.

Мацнуў другі раз:

— Дзірка!

Мацнуў трэці:

— Драбінка!

Пералез Міхей з гарошыны на драбіну і неўзабаве цераз дзірку на небным падворку апынуўся.

Глядзіць навокал і наглядзецца не можа. Па ўсім падворку яблыні пышныя растуць, а на іх румяныя райскія яблычкі красуюцца. Пад яблынямі сталы шырачэзныя ды даўжэзныя расстаўлены. Усе яны засланы белымі, як снег, абрусамі. На абрусах жа тых чаго толькі: парасяты печаныя кучамі, каўбасы

вэнджаныя торбамі, пірагі пухкія горамі. У Міхея ад відоку на ўсе гэтыя ласункі аж слінка пацякла. Зірнуў ён управа, зірнуў улева, назад азірнуўся ды — хап! — за колка каўбас і бохан пірага.

Але ж не паспеў ён каўбасу з пірагом і да рота данесці, як адкуль ні вазьміся выскачыла каза. Звочыла яна Міхея, бэкнула, разагналася і — бух! — яму рагамі ў плечы. Выпалі беднаму Міхею з рук тыя каўбаса ды пірог, а сам ён каціўся, каціўся і трапіў у тую ж дзірку ў падлозе неба ды тырчма на зямлю пашыбаваў.

Шыбаваў ён так, шыбаваў, аж якраз месяц-маладзік узышоў і яму на дарозе аказаўся. Узяў Міхей ды і зачапіўся поясам за месяцаў залаты ражок. Вісіць ён так сабе, пагойдваецца ды цешыцца:

— Ну і скажы, у бядзе якой ды шчасце прываліла. На зямлі, не інакш ужо і костачкі рассыпаліся б. А тут я тым часам над зямлёю, бы птах нейкі, лячу і на розныя зямныя цуды прыглядаюся.

Гайдаўся ён так адну ноч, гайдаўся другую, а на трэцюю, калі месяц ужо да першай квадры набліжаўся, пояс на месяцавым ражку не ўтрымаўся і ўзяў ды ссунуўся. Паляцеў Міхей уніз.

Ляцеў ён так, ляцеў ды раптам — хлюп! — па самую чупрыну ў балота. І трапіў ён у такую твань, што ні табе выплыць наверх, ні дна дастацца. Не можа Міхей ні рукой ні нагой паварушыць. Так яго там і вясна застала.

Прыляцелі з выраю качкі і пачалі на балоце выбіраць купіны сабе на гнёзды.

Пакруцілася, пашнырыла адна качка сярод купін ды і выбрала сабе на гняздо Міхееву чупрыну. Не прашло і трох дзён, як нацягала яна рознага ламачча, мінулагодняга чароту і сухой травы недзе наскубала. Яшчэ сышло якога паўтара тыдня, як нанесла яна ў гняздо яечак і пачала іх выседжваць. Сядзіць яна тыдзень, сядзіць другі, сядзіць трэці, а на чацвёртым нешта пачало папіскваць у яечках і, як ні бач, вылупіліся пушыстыя карычневыя качаняты. Кожнае з іх не паспее са шкарлупіны вылезці, як адразу ў ваду — плюх! — і паплыло.

Аж тут з'явіліся на балоце паляўнічыя з сабакамі ды давай за качкамі ганяцца. Спужалася тая качка, што на Міхеевай чупрыне качанят выседжвала, за лёс сваіх дзетак-малалетак. Каб ратаваць іх, сама выскачыла з гнязда і паляцела проста на паляўнічых. Міхей жа — цап! — яе за хвост. Качка страпянулася крыламі раз, страпянулася другі, а на трэці і выцягнула Міхея з багны.

Ляціць качка над балотам і цягне за сабою Міхея. Той жа ляціць і цешыцца:

— Ці не пашанцавала мне! — кажа ён сам да сябе. — Гэта ж я мог бы і згніць у той багне, а тут вось лячу сабе жывы ды цэленькі.

Ляціць ён так, ляціць, а за кожным кругам усё вышэй пад неба ўзбіраецца. І тут Міхей пачаў непакоіцца. Прыгадалася яму каза, што на небе таўкла яго вострымі рагамі, і ражок месяца, на якім ён вісеў галавою ўніз. Перапалохаўся не на жарт Міхей, выпусціў з рук качыны хвост, каменем паляцеў на зямлю ды проста ў комін свае хаты. З коміна ж ён на запечак трапіў і там плазам расцягнуўся.

Працірае Міхей вочы і дзівуецца: у хаце ўсё паранейшаму, толькі запечак пахаладзеў ды на падлозе ад разбітай верцехі чарапкі валяюцца. Злез ён з запечка, пазбіраў чарэп'е, падкінуў у печ серабрыстага бярозавага палення і зноў, захінуўшыся ў жупіцу*), спаць заваліўся.



## АСОЧНІК-СТРАЛЕЦ І ЗМЕЙ

Аднойчы адзін асочнік-стралец ішоў па сваім абходзе-абрубе*) і прыглядаўся пільна і ўважліва прыслухоўваўся, ці дзе які-небудзь злодзей дрэў не сячэ або пасткаў не ставіць ці ямаў не капае на пушчанскага звера, што лічыўся ўласнасцю самога караля польскага і вялікага князя літоўскага. У самы разгар вясны гэта было. На пушчанскіх палянах трава ды квецце чалавеку па пояс, а вакол звініць птушыны рознагалосы хор. Вось на ўскраіне паляны на бярозе заліваюцца пеўчыя дразды, у нізкіх зарасніках корпаюцца ды ціўкаюць звітныя зелянушкі, у суседнім ельніку шныраць і пераклікаюцца крышынкі-каралькі, усюды ж не моўкнуць махнянкі-берасцянкі, заліваюцца сваімі звонкімі песенькамі заранкі, над палянай вісіць ды звоніць жаўранак, з пушчанскага гушчару абзываецца зязюля.

Раптам сярод гэтага спеву-гоману да вуха асочніка даляцеў нейкі незнаёмы яму зык.

Затрымаўся асочнік і слухае: недзе далёка ў глыбі абрубу нехта свіснуў. Праз нейкі час зноў пачуў ён свіст. Западозрыўшы, што гэта нейкі злодзей падае ўмоўлены знак свайму сябру, асочнік у адказ яму таксама свіснуў. „А ну ж, — падумаў ён, — зладзюга сам у мае рукі прыйдзе".

І яны пачалі так перасвіствацца: свісне той у абрубе, і асочнік яму ў адказ свісціць.

Стаў асочнік заўважаць, што свіст усё бліжэй і бліжэй у яго бок падыходзіць. Схаваўся ён за камель тоўстай елкі, падрыхтаваў да стрэлу сваю гакоўніцу, але на кожны свіст незнаёмага сваім свістам адказвае. Ажно чуе, што свіст зусім блізка раздаўся, бадай, з яловага маладняку, што каля далінкі кусціўся.

Выглянуў асочнік з-за камля і бачыць: высоўваецца з гушчару аграмадны змей, вочы ў яго бліскі-маланкі вакол кідаюць, а на галаве ззяе залатая карона. Выпаўз ён на лагчынку, узняў галаву і прарэзліва засвістаў. Павярнуў паволі сваё тоўстае цела, усё густа ўкрытае вялікімі, бы стралецкія шчыты, лускамі і прыслухоўваецца.

Ад гэтага відовішча атрупянеў асочнік за дрэвам, мурашкі па спіне забегалі ў яго і шапка на валасах узнялася. Але ўсё ж прыцэліўся ён з гакоўніцы і

націснуў спуст. Гукнуў па пушчы стрэл, змей роспачы свіснуў і скацілася з яго галавы залатая карона. Асочнік жа мігам наладаваў сваю гакоўніцу, прыцэліўся і стрэліў другі раз. Змей зноў свіснуў жаласна і згаслі ў яго вачах бліскі-маланкі. Залажыў асочнік у стрэльбу трэці ладунак і паслаў яго ў змея. Той скарэжыў сваё аграмаднае цела, скрунуў яго ў пружыну і пачаў вобзем біцца.

Дзе ні ўдарыць — іскры з яго цела сыплюцца і сыры лес загараецца. Бачыць асочнік: полымя ўжо значны шмат ельніку ахапіла. Колькі было ў яго спрыту ў нагах, кінуўся ён на ўцёкі. Бег так доўга, стомы не чуючы, аж пакуль не апынуўся па-за пушчай, у чыстым полі.

Доўгі час здалёк абыходзіў ён тое месца. Толькі назазімку, калі чорна стопа*) пасля замаразкаў надобра стала, рашыўся ён туды заглянуць.

Зайшоў, глядзіць, а там ні ельніку густога, ні нават тае тоўстай елкі, за якую ён хаваўся, у гада страляючы, нідзе няма. Навокал тырчаць адны пні абгарэлыя. След па змею таксама прапаў.



## ЧАМУ ЦЯПЕР ЧЭРЦІ Ў ХАТАХ НЕ ВОДЗЯЦЦА

Кажуць жа людзі: салдат не баіцца і пекла, асабліва калісьці. Бо што і ні кажы, салдат не бядак: шапка на вярхушку, шабелька на брушку, бот пачэрнёны, вус закручоны. Але не так то раскошна было калісь у салдатах. Казалі: у каго грошай кашэль, таго не апраналі ў шынель, а ў каго грошыкаў гэтых самых нямашака, дык тады не год і не два, а дваццаць пяць год у салдатах гаравалі.

І здарылася так, што вяртаўся адзін салдат з войска дадому, адслужыўшы свой дваццаціпяцігадовы тэрмін. Ішоў-ішоў ён пушчанскаю дарогай, а тут і змяркацца стала. Глянуў ён управа, глянуў улева — глухая чашчоба навокал. „Няўжо, — думае салдат, — прыдзецца мне і заначаваць у гэтай нетры?" І хоць яму ногі надта ж балелі, але шпарчэй пакрочыў ён па выбоістай ды пераплеценай карэннямі дарозе. Калі ж ужо зусім цямнець пачало, заўважыў на ўскраіне палянкі дзве хаты: адна высокая са смалістага бярвення, новая, другая ж урослая па вокны ў зямлю і нізенькая, старая. Пастукаў ён у дзверы новай хаты адзін, другі раз, але адтуль ніхто не адклікнуўся. Падыйшоў ён да старой і таксама давай стукаць.

Выхіліўся з дзвярэй хаты асочнік і пытаецца:

— Чаго табе трэба, чалавеча?

Салдат і просіць, каб той яму ноч скаратаць пад страхою дазволіў.

Згадзіўся асочнік, але кажа:

— Бач, браце-салдаце, хаты ў мяне дзве. Жывем мы з цэлаю сям'ёю ў гэтай старэнькай ды маленькай. Нам і самім у ёй цесна. А вось гэтая новая ды прасторная пустая стаіць. Ты ў ёй і пераначуеш.

— А чаму ж вы ў новай хаце не жывеце? — здзівіўся салдат.

— Ды бачыш, салдаціку-брацiку, бяда якая нас спаткала — нячысцік завёўся там. Усю ноч навылет па гары ходзіць, стукоча ды грукоча — дзе ж там ужывеш?!

— Нічога, — пацешыў яго салдат. — Больш грукацець не будзе. Насцяліце вы мне ў новай хаце, а ты прынясі мыла і люстэрка.

Завёў гаспадар салдата ў новую хату, гаспадыня яму зараз жа пасцель паслала, дзеці прынеслі мыла і люстэрка. Хату — на засаўку, а самі ў старую спаць пайшлі.

Запаліў салдат у новай хаце на пяколку лучыну, паставіў на стол люстэрка, намыліў сваю сівую бараду, узяў брытву і брыецца. Абрыў адну шчаку і да другой ужо прыступае, ажно бачыць: чорт на печы з-за коміна выглядае. Выглянуў раз, другі і трэці, а салдат і віду не падае, што заўважыў яго, сядзіць перад люстэркам і памаленьку цягае па шчацэ брытваю. Тады чорт — скок з печы і да салдата:

— Салдаце, ці можаш і мяне ты зрабіць такім маладым, як цяпер сябе зрабіў? — пытаецца.

Глянуў салдат на касматае чортава рыла, падумаў і кажа:

— Магчы то я магу, але на тваю шчэць мяшок мыла пойдзе, а ў мяне бач, усяго толькі кавалак асталося.

Зашумела, загуло і тут жа чорт з мяшком мыла з'явіўся.

— Сваёй брытвачкай то я тут нічога не зваюю, на тваю шчэць толькі добры серп надаецца, — зноў мяркуе салдат уголас.

Зашумела, загуло і, як ні бач, чорт з добра назубленым сярпом прыімчаўся.

— Усё гэта добра, — кажа салдат, — але без добрага пастромка тут нам не абысціся.

— А пашто табе пастромак? — здзівіўся чорт.

— Як то „пашто", — салдат яму на тое. — Ты ж такі жвавы і цяпер, хоць заросшы ды стары, а як станеш маладзец, калі я цябе брыць буду, тады ад радасці зусім не ўтаймуешся і дабрыць да канца сябе не дасіся. Прывязаць я цябе мушу.

Зашумела, загуло і чорт мігам доўгі пастромак прывалок.

— Ну, — кажа салдат, — цяпер сядай перад люстэркам на лаву і не круціся.

— Добра! — узрадаваўся чорт, і на лаве перад люстэркам сеў, не зварухнецца.

Салдат мігам прывязаў яго настройкам да лавы і давай рыхтавацца да брыцця. Разрабіў у цэбрыку мыла і, узяўшы з-пад парога дзяркач, пачаў мыліць нячыстага. Мыліў, мыліў, аж чорт увесь стаў белы, як снег. Намыліўшы, схапіў абедзвюма рукамі серп і давай чортаву шчэць скрэбалі.

Скрабе салдат, а чорт ад болю вые ды пытаецца:

— Салдаце мілы, ці, брыючыся, заўсёды так баліць?

— А як жа ж ты думаў, — салдат яму на тое і далей скрабе сярпом, аж лоб з натугі яму ўзмакрэў.

Чорт жа вішчыць ды просіць:

— Салдаціку даражэнькі, не хачу я ўжо маладым быць ды такія болі цярпець. Пусці ты мяне!..

— А ўжо ж маладым то табе адхацелася быць, чортава скура, а людзей добрых страшыць поначы ды па гары шляцца дык хочацца? — яму салдат на тое ды скрабе чортаву шчэць, аж яму пот вочы залівае.

— А-яй! Ратуйце-е-е! — верашчыць на ўсё горла чорт. — Не хачу я ні маладым быць, ні ў новай хаце страшыць. О-о-ой!

Паскроб салдат яшчэ колькі часу, а потым развязаў пастромак і кажа чорту:

— Выносься, каб твайго тут і духу не было!

Чорту паўтараць не трэба: бух ён у комін, толькі

сажа пасыпалася і на падворку загуло, быццам завіруха ў лютаўскую ноч.

Праспаўся салдат спакойна, а на раніцу расказаў пра ўсё гаспадару. Узрадаваўся той не на жарт; хлеба, сыру ды сланіны поўную торбу яму наладаваў і на дарогу, кланяючыся, правёў. Правёўшы салдата, зараз жа з усёй сваёй сям'ёю ў новую хату жыць перабраўся.

Жыў асочнік у той хаце, жылі яго дзеці, унукі і праўнукі там таксама век свой правялі, аж хатка цалкам у зямлю ўрасла, але чорта і слыху нідзе не было. Нават і з іншых хатаў, што ў пушчы або каля яе стаялі, усе чэрці прэч начыста павыводзіліся, баючыся, каб іх хто не абрыў, як той салдат калісьці.



## МАЛАДЗІЦА Ў ГАРОХАВАЙ СПАДНІЦЫ

Некалі ажаніўся адзін асочнік-стралец і ўзяў жонку хоць глухую ды лянюшчую, але затое багатых бацькоў. Відаць, ён на вялікі пасаг глядзеў, што яму давалі, а не на жонку, з якой трэба было жыццё пражыць. „Пры гаршчках абы-якая баба здзярэцца, а багацце пехатою не ходзіць", — маўляў.

Пакуль пасажнае дабро ў хаце вялося, жылі яны прыпяваючы: што ні дзень то бяседа, што ні тыдзень — гулянне. Але як пасажныя запасы скончыліся, такая галеча ў іх настала, што хоць ты зубы на паліцу, а да таго і на карк няма чаго ўздзець.

Дачакаўся асочнік торгу ў мястэчку, сабраўся ён ехаць за пакупкамі. Жонка і кажа яму:

— Купі ты мне спадніцу.

Вяртаецца асочнік з мястэчка, а жонка да яго:

— Купіў?

Асочнік ёй на тое:

— Купіў цяля я, пасвіць будзеш.

А жонка, не дачуўшы, кажа:

— Нічога, што па пятах целяпаецца, абы чыстая была.

Асочнік жа выпусціў жывінку на падворак і цешыцца:

— Ладная цялушачка, за некалькі год слаўная кароўка будзе. Тады мы ўволю малачка, сырку ды масельца свайго паядзім.

Загадаў жонцы цяля карміць ды паіць, а сам падаўся ў пушчу свой абруб пільнаваць.

Жонка ж тая замест цяля зялёнай траўкай накарміць ды сцюдзёнай вадою напаіць, пакацілася на палаці ды храпе, аж шыбы ў вокнах звоняць. Цяля ж тое мычала-мычала на падворку з голаду, знайшло дзірку ў плоце, пралезла праз яе і пайшло куды вочы глядзяць. Там жа трапіла ваўкам на зубы. Так і не было чаго ім чакаць малачка, сырку ды масельпа ад будучай сваё кароўкі.

Настаў торг і зноў асочнік у мястэчка збіраецца. Жонка і загадвае яму:

— Ты мне жупіцу купі.

Вяртаецца ён вечарам дадому, а жонка пытаецца:

— Купіў?

Асочнік адказвае:

— Купіў я тузін курэй, гадаваць будзеш.

Глухаватая жонка і кажа:

— Нічога, што без гузікаў і бурая, абы новая была.

Выпусціў асочнік курэй на падворак і радуецца:

— Нічога сабе стадка, зараз вечак нанясуць, яешня смакавітая будзе.

Жонцы сказаў курэй накарміць ды напаіць, а сам пайшоў у пушчу свой абруб даглядаць.

Тым часам жонка замест курэй крупою накарміць ды вадзічкай напаіць, на палаці завалілася ды храпе, аж пясок з полапа сыплецца. Куры ж тыя сакаталі-сакаталі галодныя, фыркнулі цераз плот ды пабеглі некуды. Перадзёр іх там каршун, адно пер'е вецер паразносіў. І не паспытаў асочнік-стралец смакавітай яешні.

Сабраўся асочнік у трэці раз у мястэчка на торг. Жонка і просіць:

— Ты мне хоць сарочку купі.

Вярнуўся той, а жонка:

— Купіў?

А асочнік:

— Купіў я гуску, даглядаць будзеш.

Жонка ж:

— Нічога, што вузкая, абы белая была.

Выпусціў асочнік гуску на падворак і кажа:

— Прыгожая гусачка, падкорміцца дык і костка мяса будзе і пуху на падушку, а то і спаць надзела, кулак пад голаў паклаўшы.

Жонка мела гуску накарміць і напаіць, асочнік жа ў абход свайго абрубу ў пушчы пайшоў.

Тая ж жонка не тое, каб гусцы паранай гародніны даць ды вады паставіць, але сама ўзабралася на палаці і так захрапла, што аж сцены ў хаце ходзяць. Гагатала-гагатала тая гуска, ежы дапамінаючыся, ды так і здохла з голаду каля парога. Не паспыталі няўдачныя гаспадары ні тае гусяціны, і на мяккай пухавай падушцы не паспалі.

Тут якраз мела быць у жончынай сястры вяселле. Папрасілі бацькі і асочніка з жонкаю ў гасціну. Што ж, сваяцтва блізкае — рад нярад, але ехаць трэба. Абкруціў асочнік жонку гарохавінамі, пасадзіў у палукашкі, сам сеў ды пугай па кані.

Заехаў ён на цесцеў падворак, каню торбу даў і пайшоў у хату. Там, як заўсёды на вяселлі, людзей, бы зярнят у гарбузе. Частуюцца ўсе, пяюць. Сеў і асочнік за стол, частуецца ды гуляе разам з іншымі, хоць бы што. Убачыла яго цёшча, падсела і кажа:

— А чаму ж ты без мае дачкі прыехаў?

А той і кажа:

— Прыехала і яна, матулю.

— А дзе ж яна?

— Ды на возе ў гарохавінах. Але як пойдзеце па яе, то парцяк вазьміце.

Цёшча за парцяк ды кулём па дачку. Прывяла ў хату ў сваім парцяку і нарутцы ды за стол садавіць. А ў тае ад сораму аж у вачах цёмна, ні стала ні лавы перад сабою не бачыць. Тут яшчэ сват-маршалак пастукаў валком у бэлек полапа і на ўсю хату:

— Татулю-матулю, прывядзіце-пакажыце тую гожую маладзіцу-сястрыцу, што прыехала на вяселле без сарочкі і спадніцы!..

Грымнуў смех па хаце, і ўсе глядзяць на асочні-

каву жонку. Наелася яна сораму-па горла. Вярнулася дадому, стала прасці і ткаць, жывіну і птаства рознае трымаць і даглядаць. Надта ж не хацела болей ездзіць у госці ў гарохавай спадніцы.



# МЯДОВАЯ ЛАЗНЯ

Сёння, як каму-небудзь з нас спатрэбяцца новыя боты, ідзем мы ў абутковую краму, выбіраем адну пару, прымерваем і, калі яна нам па назе, плоцім грошы, бярэм абутак ды клопат з галавы. Інакш гэта выглядала калісьці, скажам, гадоў дзвесце ці трыста таму назад. Як? Дык вось, паслухайце.

Каралям, князям, магнатам, купцам і іншым заможным людзям шаўцы шылі зграбныя саф'янавыя*) ці хромавыя*) боцікі, а простым бедным людзям — танныя цяжкія, грамоздкія хадакі. Але часцей за ўсё просты народ сам сабе рыхтаваў абутак: з ліпы або з лазы людзі дзерлі лыка і з яго плялі сабе на ногі лапці, ці, па-тутэйшаму, пасталы. І бывала так: на ліпу ўлезе чалавек босы, а з ліпы злазіць ужо абуты.

Аднаму асочніку з вёскі, што непадалёк Белавежскай пушчы над рачулкай расселася, здарылася вось якая прыгода. Знасіліся зусім яго лапці, і пайшоў ён у пушчу шукаць ліпу.

Ідзе ён так, ідзе і бачыць: стаіць на палянцы маладая кучаравая ліпка. Глянуў асочнік на яе і кажа сабе:

— Ат, маладзенькая яшчэ, шкада. Не буду я з яе кары дзерці, — і пайшоў далей.

На пагорку, у гушчэчы, напаткаў ён надта ж стройнае і высокае дрэва. Паглядзеў на яго і залюбаваўся:

— От, краса якая! — І ўжо хацеў узабрацца на дрэва, але раздумаў і кажа: — Вельмі высока голле, не ўлезу, — і падыбаў шукаць іншае.

Ідзе так, ідзе, ажно заўважае старую, таўшчэзную ды дупластую ліпу.

— О, гэтая якраз мне падыходзіць! — усклікнуў ён і палез на дрэва.

Надзёр ён з маладзейшых голек лыка, прымасціўся на тоўстай галіне ля камля ды ўзяўся плесці лапаць. Пляце ён так, выплятае, аж раптам нейкая

кропля яму на нос — кап! Глянуў асочнік на неба: там ні воблачка, ні хмарачкі. Здзівіўся ён, адкуль тая кропля ўзялася, паціснуў плячыма ды пляце далей. Ажно кропля на шчаку яму — пырсь! Зірнуў асочнік на лісце, ці часам не раса гэта? Але лісце ўсюды сухое-сухенькае. Дзівуецца ён такой прыгодзе, але зноў бярэцца за работу. Толькі прайшоў ён па лапцю радок, як кропля яму — хляп! — на руку. Зірнуў ён на яе — празрыстая, панюхаў — прыемна пахне, паспрабаваў на язык:

— Мёд, не інакш — чысты мёд! — усклікнуў.

Падняўся асочнік, уважліва прыгледзеўся ліпаваму камлю і некалькі сажняў вышэй убачыў вялікае дупло, а ў яго ды з яго пчолы снуюць шнурочкам.

— Ага, вось адкуль гэты салодкі дождж бярэцца, — здагадаўся ён.

Улез асочнік вышэй на дрэва, заглянуў у дзірку, а там — уся сярэдзіна вашчынамі вылажана, адно глыбакавата, не адразу рукой дастанеш.

Хоць і вельмі пякуча джалілі асочнікз пчолы, яму надта ж захацелася мёду. Ускарабкаўся ён вышэй, перахіліўся ў дупло, да вашчын з мёдам рукою цягнучыся, ды раптам — бух! — і паляцеў у сярэдзіну. Там жа вашчыны толькі зверху былі, а пад імі поўнае дупло чыстага мёду за дзесяткі год пасплывала. Есць асочнік той мёд, есць, ад пчолаў адбіваючыся, і не заўважае, што ногі яго ўсё ніжэй ды ніжэй апускаюцца. Раптам край вашчыны абламаўся, а ён — плюх! — ды па самую шыю ў мёд. Добра яшчэ, што адна нага на нейкім суку затрымалася, а то чалавек у той слодычы і ўтапіўся б.

Мёд густы ды гразкі: у ім ні табе рукою, ні нагою паварушыць. „Добра, што хоць кавалкам вашчыны мне галаў прыкрыла, а то пчолы на смерць заджалілі б, — падумаў асочнік. — Хоць радасць тут малая, бо ўсё ж канец мне ў гэтай салодкай лазні, відаць, будзе". І давай ён у крык.

— Ра-а-атуйце-е! — раве ён на ўсё горла.

Крык жа той у дупле бубніць, бы ў бочцы, а звонку, у пушчы, яго зусім і не чуваць. Ды і хто там мог яго пачуць у пушчанскай нетры? Крычаў асочнік так, крычаў, аж зусім захрып, але карысці з таго аніякай.

Пчаліны рой жа не столькі ад крыку, колькі ад таго, што ў яго гняздо няпрошаны госць уваліўся, растрывожыўся не на жарт. Гудзе ён, віецца трубою па-над лесам, быццам нараду вядзе, як чалавека з дупла пазбыцца.

І заўважыў яго мядзведзь, які паблізу спелымі малінамі ласаваўся. Кінуў ён кіславатыя лясныя ягады ды подбегам да ліпы. Нюх — туды, нюх — сюды, пачуў пах мёду і палез на дрэва. Узабраўся на яго, заглянуў у дупло, а ўбачыўшы, што мёд глыбока, усунуўся туды не перадам, а задам. Пярэднімі лапамі за край дупла ўхапіўся, адной задняй на галаву асочніку наступіў, а другую ў мёд макае, да мызы падымае ды злізвае з яе слодыч.

Лізаў звер мёд так, лізаў доўга ці коратка, а чалавек пад яго цяжарам ледзь не захлынаецца. „Вось табе і на! — думае ён з горыччу, — была адна бяда, а цяпер і другая на маю няшчасную галаў звалілася". І тут прыйшла яму збаўчая думка. Выцягнуў ён неяк з мёду адну руку, потым другую ды — цап! — абедзвюма рукамі мядзведзя за нагу. Як жа ж пачуў звер, што яго нешта за нагу схапіла, як рване ён з усяе сілы з таго дупла, аж ліпа затрашчала ды затрэслася. Вылецеў ён, а за сабою і асочніка з мёду выцягнуў.

Калі ўжо той чалавек апынуўся за дуплом, пус-

ціў мядзвежую нагу, сам жа ўздыхнуў з палёгкаю, на галіне прысеўшы ды са свайго цела мёд злізваючы. Што лізне, то і плюне — такі яму той мёд горкі ды нянавідны стаў.

Мядзведзь жа тым часам кулём з ліпы скаціўся ды як даў драла ў пушчанскую нетру, толькі сухастой, як у буру, затрашчаў і сойкі на ўсю пушчу загаласілі.

Абцёрся сяк-так асочнік з мёду ды павалокся басаною дадому, бо і новых лапцяў яму адхацелася.



# МЯНЯЛА

Жыў-быў адзін асочнік. На службе, сцерагучы каралеўскай пушчы, свае ногі стаптаў і век стрэлаў, але багацця не прыдбаў. Аднаго разу сказаў ён жонцы:

— Пайду я ў свет, свайго шчасця пашукаю.

Заламала тая рукі, залемантавала:

— Ой, ці здурэў ты, дзеду, ці так з глузду з'ехаў? Куды ж ты на старасць з хаты павалачэшся, мяне адну сіратою пакінуўшы?..

Усё ж асочнік настаяў на сваім. Ногі абкрунуў ён парцянымі анучкамі, узуў на іх лапці ліпавыя і аборамі аж да кален нагавіцы туга абвязаў. Уздзеў на плечы старэнькую жупіцу, на галаў шапку-малахай нацягнуў і, узяўшыся за клямку, сказаў сваёй старой: „Бывай!" ды з хаты падаўся.

Хадзіў ён ці блізка, ці далёка, але доўга аніяк на сваё шчасце натрапіць не мог. Ажно раз, калі валокся, пануры ўшы галаў, па нейкім бездарожжы, бачыць: ляжыць у балоце гула золата. Аж вачам сваім ён не паверыў. Выграб стары золата з балота, ачысціў, узваліў сабе на плечы і панёс дадому. „Ну і абрадуецца мая жонка, такое багацце ўбачыўшы, — падумаў ён. — То ж мы цяпер і жывіны прыдбаем, і адзежы, і харчоў!"

Нясе ён так золата і пад яго цяжарам аж пакрэквае. Дзень жа кірмашовы быў. На дарозе даганяе асочніка нейкі пан, што ехаў у карэце, запрэжанай шасцерыком стаеннікаў. Выглянуў праз акенца карэты і ўбачыў, якое багацце нясе бядняк на сваіх плячах. Пад'ехаў ён да асочніка і пытаецца:

— Ці не цяжка табе, чалавеча, такі цяжар на плячах валачы?

— Ой, цяжка, паночку, — кажа асочнік.

— Дык укінь гэтую гулу мне ў карэту, а сам бяры любога з маіх коней, сядай на яго і едзь сабе шчасліва дадому.

Спадабалася гэта старому. Ён жа ўсё жыццё пражыў, свайго каня не меўшы. Укінуў золата ў карэту, пану пад ногі, выпраг з шасцерыка самага прыгожага і маладога каня, сеў на яго і паехаў. „Не пазнае мяне, такога зухаватага казака, мая старая", — падумаў ён і пагнаў стаенніка.

Якраз насустрач яму дзяцюк гнаў статак валоў. Конь жа малады і надта палахлівы быў. Як убачыў рагатых валоў, пачаў у бакі кідацца ды дыбкі станавіцца. Глядзеў-глядзеў дзяцюк на гэтае брыканне каня ды і кажа:

— Дзядзьку, ён жа цябе калі не заб'е, дык напэўна акалечыць!

— Але, праўду кажаш, хлопча... Надта ж наравісты... Вунь як расхадзіўся... — кажа асочнік, а сам ледзь трымаецца на кані.

— Аддай мне яго, а сам бяры любога вала і вядзі спакваля дадому.

Уцешыўся стары, што пазбудзецца гуллівага жарабца. Аддаў ён яго дзецюку, а сам закінуў вяроўку на рогі самаму лепшаму валу і павёў яго па дарозе. „А то ж добра будзе нам са старою свайго вала меўшы: і загон свой загарэм і дроў з пушчы прывязём", — думаў ён.

Вол жа, як вол: то травы на абочыне дарогі ўскубне, то да збожжа цягнецца. Тузае той вол старога, спакою яму не дае. Надта ж надаела гэта асочніку. А тут чабан*) гурт авечак на рынак гоніць. Убачыў ён тузанне старога з быдлем і кажа:

— Ой, зусім замучыць цябе гэты ўпарты вол.

— Праўда ж... надта ўбоісты... — згадзіўся, ледзь сапучы, стары..

— Пакінь яго мне, а сам бяры сабе з гурту найлепшага барана ды вядзі яго спакойна дахаты.

Рады быў асочнік расстацца з непаслушным валом. Пакінуў ён быдла чабану, а сам закінуў вяроўку на шыю самаму вялікаму барану і пайшоў з ім па дарозе. Ідзе так сабе і цешыцца: „Вось радасць маёй бабе будзе: то ж з барана і воўна на світку, і скура ка кажух і мяса да капусты!"

Баран жа той, убачыўшы каго-небудзь на дарозе, возьме разбяжыцца і як таўкане, аж той кулём пакоціцца. Апрыкрыла дзеду ганяцца за бараном ды прасіць у патоўчаных людзей прабачэння. А тут, адкуль ні вазьміся, баба пеўня нясе на рынак прадаваць. Паглядзела яна, як стары барукаецца з жывёлаю ды і кажа:

— Чалавеча, гэты ж баран і душу з цябе без пары выжане!

— Праўду кажаш, маладзіца, надта ж зачэпны ён, падла! — згадзіўся з ёю асочнік.

— Бяры вось гэтага майго пеўня, а я вазьму барана.

Згадзіўся асочнік. Аддаў барана за пеўня жанчыне. Ідзе і цешыцца: „Напэўна маёй старой певень прыдзецца да спадобы. Пяюн жа ён ды і куркам нашым будзе гаспадар".

А певень той пяе, не сунімаецца, і ўсё без толку, а на дадатак сваёй вострай дзюбай не-не ды і дзеўбане старога. Зусім яго аглушыў ён ды акрывавіў.

Тымчасам па дарозе гандляр у мястэчка на кірмаш з іголкамі спяшаўся. Убачыў ён, як асочнік з пеўнем мучыцца, і кажа:

— Гэтая птушка на смерць цябе задзяўбе!

— Праўда ж твая, чалавеча, надта ж паганы певень мне трапіўся, — згадзіўся асочнік.

— А ты мне аддай яго, — раіць гандляр. — Выбераш за гэта якую захочаш іголку з мае торбы.

Узрадаваўся стары. Аддаў пеўня гандляру. Узяў з яго торбы іголку. Утыркнуў яе ў рукаў свае жупіцы і пайшоў дахаты. „Ну і добра, што я іголку дадому прынясу, — цешыўся ён. — Жонка будзе мець чым і сваю нарутку і маю жупіцу залатаць".

Калі ўжо ўваходзіў ён на свой падворак, зачапіўся рукавом за вароцечка і выпала тая іголка ў смецце.

Уваходзіць асочнік у хату і кажа жонцы:

— Баба, я табе іголку прынёс.

— Ой, як добра! — абрадавалася тая. — А дзе ж яна, тая іголка?

Асочнік за рукаў, а там толькі дзірку пасля іголкі відаць. Кінуліся яны абое з жонкаю іголку шукаць. Перагрэблі ўсё смецце на падворку, шукалі-шукалі, але так і не знайшлі.

Засумаваў асочнік, што прамяняў гулу золата на дзірку ў рукаве пасля іголкі. Убачыла жонка сум на яго твары і кажа:

— Няхай пропадам прападзе тое багацце! Добра, што хоць ты здаровы дахаты вярнуўся.

І жылі яны далей у сваёй старэнькай хатцы пад разгалістым дубам хоць надта бедна, але затое вельмі шчасліва.



# ЖЫВАЯ ВАДА

Недзе пад стромкай сцяной пушчы некалі стаяла старэнькая хатка. Жыла ў ёй удавіца з трыма сынамі. Старэйшы сын паляўнічым быў. Днямі і тыднямі ў пушчанскіх нетрах прападаў, дарогі за звярамі праставаў. А вядома ж, хто дарогі прастуе, той дома не начуе. Сярэдні сын музыкантам быў. Па вяселлях ды вечарынках вельмі спрытна на гармоніку граў. Але на заграныя грошы хіба ж толькі абаранак купіш. Малодшы сын гаспадаром быў. Дзень у дзень да сёмага поту на гаспадарцы працаваў: араў, сеяў і касіў — старую матку і братоўабібокаў паіў і карміў.

Матка, хоць старэнькая і слабенькая была, усё ж малодшаму сыну ў сім-тым памагала: то яму кашулю прасцірае, то есці прыварыць, то пасцельку пасцеле. Браты ж тыя толькі тое і рабілі, што гатовага наеўшыся ды напіўшыся, жарты ды смешкі з яго строілі.

Папросіць, бывала, малодшы брат старэйшага, каб памог яму снапы з поля вазіць. Той падасць на воз снапоў два ці тры ды і кажа:

— Вунь цэлае гняздо перапёлак па жніўю гуляе. Пайду я за стрэльбаю, упалюю іх, вячэру смачную мець будзем.

Як пойдзе за тымі курапаткамі, так дзён тры дадому не трапіць.

Скажа часам малодшы брат сярэдняму, каб памог яму збожжа малаціць. Возьме той цэп у рукі, стукне па снапу разоў два ці тры, стане, падапрэцца цапільнем і кажа:

— А то ж у суседнім сяле вяселле гуляюць, а музыканта там няма. Пайду я ім пайграю, грошай

зараблю, купім мы што-небудзь дахаты.

Закрунецца туды-сюды і ўжо яго след прастыў.

Так вось і жылі яны, старэйшы сын па палях ды пушчы валэндаўся, сярэдні людзей па сёлах ды вёсках весяліў, а малодшы на ўсіх працаваў. І жылі б, пэўна, і па сённяшні дзень, калі б у іх бяда не стрэслася.

Ні з таго ні з сяго захварэла іх старэнькая маці. Засумавалі браты, а больш за ўсіх сумаваў самы найменшы. Бачаць яны, што маці іх на вачах гасне, ды і кінуліся за дапамогай да іншых людзей. Адзін ім тое раіць, другі — іншае, а трэці пасылае да бабулькі-вядзьмаркі, што на далёкай пушчанскай паляне шмат год пражыла і яшчэ болей усяго ведала. Часам добрай парадай і шчырай спагадай у няшчасці пасабляла, часам у бядзе-хваробе лекавым зёлкам успамагала.

Ноч якраз была. Кінуўся старэйшы брат да бабулькі бегчы, але праз колькі хвілін назад у хату вярнуўся і кажа:

— Цемра такая, што хоць вока выкалі. Чаго добрага наткнуся я ўпоцемку на нешта вострае, скалечу вока, аслепну і не змагу паляваць.

Пабег сярэдні брат да бабулькі, але таксама праз якісьці час вярнуўся ні з чым да хаты і гаворыць:

— Віхор такі страшэнны дзьме, проста з ног валіць чалавека. Яшчэ надуе мне ў вушы, прастуджу я іх, страчу слых і прападзе маё гранне.

І пайшоў наймалодшы брат чорнай ды віхрыстай ноччу на далёкую паляну да бабулькі. Прывёў яе ў хату. Глянула тая на хворую, паківала сівенькай галавой ды і кажа:

— Няма каго лекаваць, хлопцы. Памерла ўжо ваша маці...

Заплакалі сыны па сваёй матцы любай, загаласілі. А больш за ўсіх плакаў найменшы сын.

Пашкадавала бабулька-вядзьмарка сыноў-сірат, падумала і гаворыць:

— За сямю лясамі непраходнымі, за сямю балотамі топкімі, за сямю рэкамі бурлівымі стаіць высокая абрывістая гара. Расце на той гары залатое дрэва. Сядзіць на тым дрэве каршун ды крыніцу з жывою вадою сцеражэ. А крыніца тая з-пад карэння залатога дрэва б'е. Вось як прынясеце тае жыватворнае вады сваёй **матцы**-пакойніцы, тады яна ўваскрэсне. Але ведайце: шлях да крыніцы з жыватворнаю вадою вельмі цяжкі і небяспечны. Многа людзей туды пайшло, а назад ніхто не вярнуўся. Бо нельга, туды ідучы, страху ў сваім сэрцы мець, нельга саступіцца ці адпачываць і аглядацца таксама нельга. Хто ад гэтых слабасцей сябе не захавае, адразу каменем-скалою становіцца.

Сказаўшы гэта, паклыпала бабулька ў пушчу цёмную да свае хаты.

Пачалі браты між сабою раіцца, каму па жыватворную ваду ісці. Думалі-думалі, раіліся-раіліся і старэйшы кажа:

— Не ўпершыню мне ў далёкія дарогі хадзіць і да небяспекі я прывыкшы — пайду я да крыніцы.

Развітаўся ён з братамі, ускінуў стрэльбу на плячо, узяў у руку збан і пайшоў.

Мінае адзін дзень, мінае другі, ужо і трэці настае, а старэйшага брата ўсё не відаць. Пахавалі браты матку ды па старэйшым браце зажурыліся. Чакалі яны, чакалі ды пайшлі да бабулькі-вядзьмаркі расказаць пра сваё новае гора.

— Калі за сем дзён не вярнуўся, значыць, і не чакайце ўжо яго. Каменем-скалою ляжыць ваш родны брат недзе каля гары пад залатым дрэвам.

Пайшлі браты дамоў ад гора толавы апусціўшы.

Прыйшлі на родны парог, сярэдні брат уздыхнуў і кажа:

— Відаць, не толькі адвага там, на гары, патрэбна, але і спрыт таксама. Пайду я па ваду.

Сабраўся ён, развітаўся з братам і пайшоў.

Мінуў адзін дзень, мінуў другі, ужо і тыдзень прайшоў, а сярэдні брат не прыходзіць. Туга цяжкая лягла на сэрца малодшага брата. Гараваў ён, гараваў ды намерыўся сам па жыватворную ваду ісці. Узяў бохан хлеба і шчыту солі, дзверы хаты на калок зачыніў і пайшоў.

Ішоў ён ці доўга, ці коратка, але адолеў сем лясоў непраходных, прайшоў сем балот топкіх, пераплыў сем рэк бурлівых і ўстала перад ім гара высокая, а на ёй дрэва залатое ды на ім каршун страшэнны. Аж сэрца яго задрыжэла, калі ён убачыў безліч камення навокал. Успомніў ён родных братоў сваіх, што такімі ж каменьмі тут недзе ляглі.

Сабраўся з сіламі і пачаў узбірацца на гару да залатога дрэва. Мядзведзі і ваўкі балюча кусалі яго, змеі розныя віліся пад нагамі ды смяротна джалілі, каршун віўся над галавою і ўсё вострымі кіпцюрамі ды загнутай прагавітай дзюбай да вачэй кідаўся, выдзерці іх жыўцом намерваючыся. Але малодшы брат няспынна крочыў уверх па гары. Страшыдлы розныя спрабавалі сапхнуць яго са сцяжыны, а нейкія галасы ўсё крычалі, што ён ідзе не той дарогаю. Аднак ён не саступіўся з дарогі. Нехта аграмадны і жудасны дыхаў яму ў самы карак. Усё ж ён не азірнуўся.

Пакалечаны і смяротна стомлены, узабраўся малодшы брат да залатога дрэва і тут упаў, ад бяссілля на калені, схіліўся да крыніцы са сцюдзёнай вадою, што біла струменем з-пад карэнняў залатога дрэва. Вуснамі спечанымі ад смагі да вады дакрануўся і раптам загаіліся яго раны смяротныя, а стомленасць як рукою зняло.

Падняўся аздароўлены малодшы брат і радасным вокам глянуў вакол сябе. Зніклі недзе звяры, змеі, каршун і страшыдлы, усюды панавала цішыня і спакой, ласкавае сонейка ўзыходзіла з-за далёкага бору.

Зачарпнуў ён з крыніцы поўны гарнец вады, назбіраў крыху галінак пад дрэвам і пачаў спускацца з крутой гары. Святлом прамяністым асвятлялі яму дарогу галінкі з залатога дрэва. А калі на зямлю капала кропля вады з перапоўненага гарнца, на тым месцы вырастала з зямлі буйнае квецце. Як жа ж кропля трапляла на камень — з яго ўваскрасаў чалавек.

І пачаў малодшы брат пырскаць вадою на ўсе напатканыя камені. З кожнага з іх падымаўся чалавек. Так уваскрэсіў ён і сваіх братоў. І яны і ўсе іншыя ўваскросшыя горача дзякавалі свайму збаўцы. Малодшы ж брат хацеў даць усім зняволеным збавенне і ўваскрашаў іх датуль, пакуль пад гарою не засталося ніводнага каменя.

На дне гарнца засталася ўсяго толькі адна кропелька вады, і яе панёс ён беражліва на магілу роднай маці.

Сонцам ясным заззялі ў курнай хатцы галінкі залатога дрэва, але яшчэ святлей было там ад шчаслівых усмешак уваскросшай маткі і трох сыноў. Адтуль шчасце запанавала ў хатцы на скраю пушчы. Перастаў старэйшы брат па пушчы за звярамі ганяцца, сярэдні ж — па гульбішчах бадзяцца. Усе яны згодна і ахвоча сталі працаваць на родным бацькоўскім загоне.



# СЕЛЯНІН І ХАЛЕРА

У даўнія часы для людзей найвялікшым няшчасцем быў не пажар, не голад і нават не вайна, хоць яны здараліся вельмі часта і прыносілі многа гора, але найгоршая была пошасць або зараза ці як цяпер кажуць — эпідэмія. Пошасці розных хваробаў вынішчалі людзей з цэлых вёсак, гарадоў, акругаў, нават краінаў.

У вёсцы Баб'я гара, што знаходзіцца на высокім пагорку паміж ракою Нарвай і паўночнай ускраінай Белавежскай пушчы, сярод сялян расказваюць такое.

Калісьці, як у вёску даходзіла чутка, што недзе непадалёк паявілася пошасць, мужчыны запрагалі ў саху сівога вала і абворвалі навокал вёску, каб хвароба не перайшла цераз гэтае цудадзейнае кола. У тым жа часе жанчыны і дзяўчаты збіраліся разам і за адну ноч напрадалі з лёну нітак і вытыкалі з іх ручнік-ахвяру, які перад узыходам сонца павязвалі на крыжы, што стаяў на канцы вёскі. Зразумела, што ўсё гэта не магло перашкодзіць пошасці.

І яна, быццам бы, калі ўварвалася ў вёску, імчалася па вуліцы і сваімі касцянымі пальцамі стукала ў вокны хатаў і крычала:

— Была бяда, была бяда, а цяпер будзе вам ліха!

І вось- аднойчы, калі так бегла пошасць па вуліцы Баб'яй гары і стукацела па вокнах, адзін баб'ягорац сядзеў сабе на прызбе сваёй хаты ды пакурваў люльку. Пыхнуў цэлую хмару дыму раз, пыхнуў другі, а калі пыхнуў трэці, бачыць — нейкая белая мара*) каля яго хаты стаіць ды касцяным пальцам у шыбіну стукоча. Баб'ягорац, доўга не думаючы, схапіў яе за касцяную руку ды і кажа:

— Перастань барабаніць, бо дзеці і жонка ў хаце паснулі!

— Ах, дык ты асмеліўся мяне за рукі хапаць! — узлавалася мара. — Ці ты ведаеш, хто я?! — ускрыкнула яна.

— Адкуль жа мне ведаць, міласцівая паненка, — залепятаў баб'ягорац, здагадваючыся з кім мае дачыненне ды задам да дзвярэй свае хаты падаючыся.

— Ну, дык ведай: я — сама халера*)! — закрычала яна і дзіка зарагатала, што ў баб'ягорца ад жаху аж мову адняло ды з ляскацеўшых зубоў люлька выпала.

— Чаго затросся? — накінулася на яго халера. — Пакуль я цябе не ўмару, ты мне патрэбны да іншага. Бач, я ўжо зусім прыстала, увесь час па свеце пехатою бегаючы. Бяры мяне на свае плечы ды нясі, куды табе скажуць. Толькі зважай, каб не абмінуць ніводнага сяла ні якога-небудзь горада. Калі пастараешся ў мяне на гэтай службе, дык пажывеш яшчэ крышку.

Сказала яна так баб'ягорцу ды на плечы яму ўзабралася.

Паправіў той жудасную ношу на плячах і адчувае, што яна не толькі лёгкая, але зусім, бы тое паветра, вагі не мае. Падумаў ён сабе: „Вядома, мара ж яна" і павалокся да бліжэйшага сяла.

У тым сяле мужчыны якраз пад яравое поле аралі, жанкі ў гародах варыва садзілі, а дзеткі-малалеткі на вуліцы, каля хатаў сваіх, забаўляліся. Убачыла гэта мара, скрыганула са злосці зубамі ды махнула сваёй белай плахтаю, што ахутвала яе касцістае цела. Пайшоў ад плахты смяротны павеў і пачалі мерці мужчыны, жанчыны і дзеці, дзе хто ў тую пару знаходзіўся. Як прайшоў баб'ягорац па тым сяле — адны пустыя хаты асталіся.

Заходзіць баб'ягорац з сяла ў мястэчка. Там жа ж па карчмах піўных, мядовых ды гарэлачных скокі, спевы ды весялосці такія, што кожны твар радасцю і шчасцем ззяе. Але як толькі ён затрымаўся на рынку і мара ўзмахнула сваёй плахтаю — спынілася адразу музыка, змоўклі песні, боль пакарэжыў людскія твары. Куды ні глянь, усюды вуліцы ды падворкі трупы ўсцілаюць, труна за труною на могілкі плывуць, а там ужо і месца не хапае памёршых хаваць.

Кінуўся баб'ягорац з мястэчка ды ў поле пабег са сваёю ношаю. А там якраз панскі двор сярод старых ліпаў і вязаў рассеўся. Пад яго ганак пышная карэта ў шасцярык стаеннікаў запрэжаная пад'язджае, з яе зграбны паніч выходзіць, а на ганку яго пекная паненка сустракае. Абымаюцца яны і цалуюцца, вядома, як двое каханкаў, пра свет божы забыўшыся. Ды толькі махнула мара плахтаю — паненка і паніч ужо ў трунах ляжаць, а ў іх руках свечкі пахавальныя гараць.

Нагледзеўся баб'ягорац на гэтую жудасць, абамлелі ў яго рукі ды ногі і сэрца крывёю аблілося ад жаласці да загінуўшых людзей. Прысеў ён на прыдарожны камень і цяжка ўздыхнуў, а мара заляскацела касцьмі і кажа:

— Што, жыццё табе надаела?..

Воляй-няволяй падняўся ён ды пасунуўся, куды вочы глядзяць. Але ўсё так меркаваў, каб па лясах, багнах і пустэчах розных хадзіць, дзе меней людзей сустракаецца. Заўважыла мара яго хітрыкі і прыгразіла:

— Ты глядзі, каб часам я цябе мёртвым на якой-небудзь пустцы не пакінула...

І давялося няшчаснаму баб'ягорцу насіць мару па вёсках, гарадах ды дварах.

Насіў ён яе, насіў, доўга ці коратка, ажно і ў свае бакі родныя прыблукаў. Бачыць: за рэчкаю, на высокім пагорку, яго родная вёска стаіць. Усплылі перад вачыма баб'ягорца ягоныя дзеткі, старыя бацька і маці, любая сэрцу жонка. Зашчымела яму сэрца ад болю, а мара тым часам падганяе:

— Чаго стаў? Ці ж табе даражэй жыццё тваіх родных, чым сваё ўласнае?

Нічога не сказаў на гэта баб'ягорац, толькі выбраў месца ў Нарве найглыбейшае ды ўброд цераз раку пайшоў. Ішоў і з кожным крокам усё глыбей у ваду акунаўся. Моцна-моцна ўхапіў ён за касцістыя ногі мару ды цалкам пад ваду нырнуў. Але мара, як паветра, успłыла над вадою, баб'ягорац жа так і застаўся на дне глыбокага віру.

Перапужалася халера такой настойлівасці баб'ягорца, што свайго жыцця не пашкадаваў, каб адно ўратаваць ад смерці сваіх дзяцей, бацькоў, жонку і сяло. Пабегла яна спачатку ў Белавежскую пушчу. Паблукала па ёй некалькі дзён, а потым цалкам з гэтых бакоў у іншыя краі падалася.



# БЛУКАЮЧЫ АГЕНЬЧЫК

Непадалёк тых месц, дзе Белавежская пушча канчаецца і пачынаецца Лядская пушча, жылі-былі некалі два суседзі Іван ды Сцяпан. Хаткі іх непадалёк адна ад другой стаялі, а палеткі цераз парослую чарнобылем мяжу прасціраліся. І жылі яны так, пажывалі, год не лічачы, у згодзе ды ў сяброўстве вялікім. Мо і па сённяшні дзень усё паміж імі так ладна і цудна было б, калі б не тая курка-ласуха.

А ўсё пачалося вось як.

Пасеяў Сцяпан ячмень побач з сялібаю Івана. Убачыла залатыя зярняты Іванава курка ды захадзіла па падворку, забегала, зазорным вокам на ячмень паглядаючы і ў плоце дзіркі шукаючы. І знайшла. А як знайшла, то — шмыг! — праз яе і на поле гуляць пайшла. Тут зерне дзяўбне, там кіпцюрамі загон удзярэ.

Убачыў гэта Сцяпан і прагнаць хацеў з поля. Крыкнуў: „Кыш!" і рукою махнуў. Курка ж як курка: адышлася які крок і далей грабе. Узлаваўся на яе Сцяпан, знайшоў каменьчык і шпурнуў у яе бок, каб неяк напужаць шкодніцу. Каменьчык жа той, замест на поле ўпасці, якраз у курыцыну галаву трапіў і тут на месцы стракатую мёртвай паклаў.

Згледзела гэта Іванава жонка і давай плакаць ды

галасіць па страце ў сваёй гаспадарцы. Закіпела прагай помсты і сэрца Івана. Выскачыў ён, калі Сцяпанава гуска на мяжу ўзышла і тут жа яе прыкончыў.

Ну і пайшло тады паміж былымі прыяцелямі такое, што і страх расказваць. Спачатку сабе ўзаемна ўсю жывіну перабілі-перамарнавалі, потым адны на другіх з кулакамі накінуліся. І так лаяліся ды таўкліся сабе на шкоду, а іншым людзям на смех колькі часу, аж уздумаў Іван жудасную расправу над суседам.

У глыбокую восень, зусім перад калядамі, настала ноч, аж густая ад цемры. Недзе пасля першых пеўняў пагас агеньчык у аконцы Сцяпанавай хаты. На гэта толькі і чакаў Іван. Падкраўся ён пад Сцяпанаву хату, прыслухаўся, ці ўсю сям'ю суседа змарыў першы, самы моцны сон. Упэўніўшыся, што ўсе спяць, падаўся ён пад Сцяпанаву клуньку, чыркнуў запалку ды ўторкнуў агонь у саламяную страху. Сам жа ходу адтуль, на свой падворак прыбег. Пахадзіў так сабе па падворку ды са зларадствам паглядзеў, як поўная збожжа суседава клунька, бы касцёр нейкі, яркім полымем разгараецца. Калі ўжо гэтым страшэнным вогнішчам ён свае вочы насыціў і ўталіў прагу помсты, пайшоў дадому і лёг на палацях. Баяўся, каб хто з суседзяў яго не звочыў і ў злачынстве не западозрыў.

Ляжыць ён так з адкрытымі вачыма і па бляску з акна здагадваецца, што пасля клунькі на Сцяпанавым падворку, відаць, заняліся свіронак і хлявок. „Так яму і трэба!" — мсціва падумаў Іван. А тут у вокны ўсё ярчэй ды мацней святло б'е. „Няйначай, гэта хата ў майго ворага гарыць!" — паціху цешыцца Іван. Ажно чуе ён, як нешта на падстрэшшы яго хаты трашчаць пачало. „О, і вецер узняўся — згарыць мой вораг датла!" — ледзь не ўголас выкрыкнуў Іван. Але ж заўважыў ён, што на гары не толькі трашчыць нешта, але і валіцца на полап ды ўся хата дымам напоўнілася, што і дыхнуць няма чым.

Выскачыў ён на падворак і бачыць: уся яго хата ў агні стаіць. А навокал такі віхор, такая бура бушуе, што і на нагах устаяць цяжка. І здагадаўся Іван, што сам ён прычына свайму няшчасцю: віхор перакінуў агонь з суседавага падворка на яго хату.

Заенчыў Іван, залемантаваў ды ў сярэдзіну хаты ўскочыў і пачаў будзіць спячых жонку і дзяцей. А тыя спяць нядобрым, непрабудным сном. Тут ужо і полап валіцца пачаў. Скочыў Іван да дзвярэй, а яму на плечы палаючая бэлька з падстрэшша звалілася, і полымя ўсю яго постаць агарнула.

Выбег Іван з хаты ды ў поле, а потым на луг, каб дзе ваду знайсці і агонь на сабе патушыць. Кінуўся ён да аднае крыніцы — ды там суха, кінуўся да другой — таксама, кінуўся да трэцяй — сухі пясок на дне. Так і згарэў ён жыўцом у страшэнных мучэннях.

Кажуць, што тое месца, дзе стаялі Сцяпанава ды Іванава хаты, даўным-даўно зарасло. Ніхто ўжо і паказаць яго не здолее ў пушчанскай чашчобе. Затое кожны ў Івана-падпалыпчыка пальцам тыцкае, бо ён па векі-вечныя блукаючым агеньчыкам па пушчанскіх багнах ды дрыгве ў змроку валэндаецца. Енчыць Іван-падпальшчык ад нясцерпнага болю, увесь полымем агорнуты. Па цэлых начах усё вады ў крыніцах шукае, але вада ўсюды хаваецца ад злачынцы. І будзе ён так мучыцца заўсёды.



## ЯК МУЖЫК СВАЮ ЖОНКУ СЛУХАЦЬ ПЕРАСТАЎ

Адзін мужык зграбаў сена на сенажаці, што над пушчанскай рэчкай прасціралася. Ён гроб яго ў валкі, пластаваў у капіцы, з капіцаў на воз ладаваў. Ажно звочыў: на лузе іголка блішчыць. Узрадаваўся ён знаходцы, устраміў яе ў сена і паехаў дадому.

Прыязджае на падворак і кліча жонку:

— Жоначка, жоначка, я табе падарунак прывёз!

— Няўжо?

— А як жа ж, іголку знайшоў.

— А дзе ж ты яе задзеў?

— У воз з сенам паклаў.

— А хто ж знойдзе іголку ў возе сена! — раззлавалася жонка. — Трэба было яе сабе за пазуху ўтыркнуць.

І сказаў сабе мужык: „Усё знойдзенае буду хаваць заўсёды за пазуху".

На другі раз вяртаўся мужык з фураю дроў з пушчы і заўважыў: парася па дубняку бегае. Злапаў ён жывінку, схаваў яе за пазуху, як жонка казала, і паехаў дахаты. Парася тое паквічэла-паквічэла, пакруцілася-пакруцілася за мужыковай кашуляй ды заціхла. Едзе сабе мужык і прыпявае ад задавальнення.

Прыязджае на падворак і кліча жонку:

— Жоначка, жоначка, я табе прыбытак Прывёз!

— Няўжо?

— А як жа ж, парася злавіў.

— Штосьці я парасячага квіку не чую, — падазрона паглядае на мужыка жонка і пытаецца: — А дзе ж ты падзеў яго?

— За пазуху я яго схаваў, так як ты мне казала, — адказвае той ды мац-мац па кашулі, а там даўно пуста. — Бач ты, яно ж уцякло, падла.

— Ці бачыў ты, каб хто свінні за пазухай вазіў? — разгневалася жонка. — Трэба было яму за ножку шнурочак прычапіць ды да воза прывязаць і на падворак прыгнаць.

І падумаў сабе мужык: „Цяпер усё знойдзенае заўсёды буду прывязваць да воза".

Вяртаўся ён аднойчы з млына і бачыць: на дарозе ляжыць кавалак сланіны. Адвязаў мужык ад свайго лапця аборку, за адзін канец яе прычапіў

сланіну, а другі прывязаў да воза і паехаў дахаты падскакваючы ад радасці.

Прыязджае на падворак і кліча жонку:

— Жоначка, жоначка, я табе гасцінец прывёз!

— Няўжо?

— А як жа ж, цэлы подаць акрасы прыдбаў.

— А дзе ж яна?

— Як то дзе? Так як ты мне казала, я яе на шнурочку прывязаў да воза.

Яны да таго шнурка, а там толькі кавалачак скуркі целяпаецца, бо ўся сланіна па дарозе аб каляіны ababілася ды выцерлася.

— Ну і хто ж гэта акрасу аборай да воза прывязвае, — ускіпела жонка. — Трэба было яе ў хусцінку загарнуць ды ў торбу пакласці.

І тады пакляўся сабе мужык: „Усё знойдзенае толькі ў торбу буду класці".

Ехаў ён аднаго разу з торгу і дагнаў свайго суседа: той з мястэчка пехатою ішоў.

— Давайце, суседзе, я вас на воз вазьму, — кажа мужык. — Толькі зараз у хусцінку загарну ды ў торбу ўсаджу.

Як на зло, сусед жа той невялічкі ростам быў ды і абразіўся ён ненажарты.

— Нічога, што я маленькі, — раскрычаўся. — Але навучу ж цябе розуму, што і ўвек не забудзеш!

Кінуўся ён у лес, выламаў кій ды да мужыка скача. Той жа як убачыў, што справа дрэнь — па кані ды на ўцёкі, аж калёсы па калдобінах ды на карэннях затанцавалі.

І так ад таго часу перастаў той мужык жонку слухаць ды стаў сваім розумам жыць.



## ЧАМУ ЗОЛАТА У КАМЕНЬ АБЯРНУЛАСЯ

Аднойчы жылі-былі два паляўнічыя. Гаспадаркі добрыя мелі, але хлеб толькі ў вялікія святы елі. Вядома ж, хто са стрэльбай па лесе бродзіць, таму загон мятліцу родзіць. І зайздросныя ж тыя паляўнічыя былі! Яны ніколі разам у пушчу не ўвахадзілі, затое з пушчы з пустымі рукамі заўсёды разам вярталіся.

Аднаго дня ім асабліва не шанцавала. Хадзілі Яны па лесе, хадзілі ўвесь дзень, але нават ніводзін аблезлы заяц ім дарогу не перабег. Сустрэліся на паляне і рашылі адпачыць. Убачылі пад кашлатай старой елкай вялікі камень і падышлі да яго прысесці. Толькі нахіліліся яны да каменя, ажно бачаць: гэта ж зусім не камень, але вялікая гула золата!

Уцешыліся паляўнічыя, аж ім вочы засвяціліся. Гэта ж падумаць: шчасце якое ім прываліла! Сталі яны меркаваць, як тую гулу дамоў завалачы. Думалі-думалі ды старэйшы і кажа малодшаму:

— Ідзі дахаты, запражы ў воз каня ды хутчэй прыязджай сюды. Ускладзем мы золата на воз, завязём дамоў, а там і падзелімся. Скажы толькі маёй жонцы, каб мне есці прыслала, бо надта ж прагаладаўся я.

Пайшоў малодшы паляўнічы дамоў, расказаў аб усёй прыгодзе сваёй жонцы.

Тая і кажа:

— Не ідзі ты да яго жонкі, і нічога нікому не кажы. Напяку я яму затручаньтх блінцоў. Ты завязеш іх, узложыце золата на воз, ён паесць маіх блінцоў і памрэ. Усё золата нам дастанецца.

Так яны і зрабілі. Напякла жонка затручаных блінцоў. Загарнуў іх малодшы паляўнічы ў хусцінку, запрог каня і ў пушчу паехаў.

Тым часам старэйшы паляўнічы таксама дарма часу не траціў на паляне седзячы. Думаў ён ды меркаваў, як бы тут супольніка пазбыцца ды самому золата заграбастаць. І прыдумаў: прыедзе малодшы паляўнічы, узложаць яны разам золата на воз, малодшы возьме лейцы ў рукі і пойдзе перадам, а ён астанецца ззаду і застрэліць яго, а золата сабе забярэ.

Так яно і сталася.

Прыехаў малодшы паляўнічы на паляну і кажа старэйшаму:

— Прывёз я табе грэчневыя бліны, але з'ясі іх, як узвалім на воз золата.

— Добра, — кажа старэйшы паляўнічы.

Узяліся яны за работу. Палажылі золата на воз і рушылі ехаць. Малодшы пайшоў перадам каля возу, а старэйшы замешкаўся ззаду. Зрабіў ён так, як раней абмеркаваў: зняў з пляча стрэльбу і застрэліў малодшага паляўнічага. Завалок забітага ў яму, дзе гула золата ляжала, і заваліў яго зямлёй. Узрадаваўся, што яму >тсё так гладка пайшло. Падышоў да воза, знайшоў хусцінку з блінцамі і пачаў іх прагна есці. Праглынуў адзін, другі, трэці блінец ды і ногі выцягнуў.

Стаяў конь з возам да ночы. Калі ж змяркацца пачало, прывалаклася на паляну зграя галодных ваўкоў і каня разарвала. Пасля каня, не пакінула і цела мёртвага старэйшага паляўнічага — таксама з'ела.

Доўга яшчэ пасля гэтага ляжала тая гула на возе. З часам воз згніў, і гула на зямлю звалілася. Не была яна ўжо золатам, але гледзячы, як людзі з-за яе адзін другога забіваюць, у звычайны камень абярнулася.

І па сённяшні дзень ляжыць той камень на адной з палянаў у глыбі Белавежскай пушчы.



# ТРЫСЦІНКА І КАВАЛЬ

У адной вёсцы, што стаяла над ракою Нарваю, жыў бедны чалавек. Штодзень хадзіў ён у надрэчныя зараснікі. Рэзаў там лазіну ды ракіту, прыносіў на плячах дадому і там плёў карабкі розныя, кошыкі і палукашкі. Прадаваў свае вырабы на торгу і з гэтага жыў. А жыў ён бедна: ледзь канец з канцом зводзіў, больш усё сухі хлеб жаваў, а закраса рэдка калі ў яго гаршчок трапляла.

У той жа вёсцы жыў таксама бедны каваль. Хоць быў гол бы сакол, але залатыя рукі меў. На што ні гляне — тое мігам зробіць ды яшчэ прыгажэйшае. Што ні задумае — тое зараз жа на сваім кавадле выкуе. Аднак карысці з гэтага ён вялікай не меў. У тыя часы жалеза дарагое было, сяляне без яго неяк абыходзіліся, робячы ўсё з дрэва: і вазы, і сані, і вораны і нават гвазды. Таму каваль толькі тое і зарабляў, што на кавалак хлеба і ні аб чым іншым ды лепшым і марыць не пасмеў.

Жылі вось так сабе селянін з кавалём, з галечы ды на прогаладзь перабіваючыся, але сябравалі яны з сабою моцна.

Пайшоў аднойчы той селянін па ракіту і раптам чуе: дзіця ў трасціне плача. Разгарнуў ён трысцё, а там ляжыць немаўлятка, дзяўчынка. Пасінела, бедная, ад холаду і ад плачу аж заходзіцца. Зліталася сялянскае сэрца над няшчаснай дзяцінаю, узяў ён яе ды прынёс у сваю хату. Адхукаў неяк і аддзьмухаў ды стаў яе гадаваць-даглядаць як родную дачку; назваў жа Трысцінкаю, бо ў трысціне яе знайшоў.

Мінаў год за годам, падрасла Трысцінка і стала свайму прыёмнаму бацьку хату прыбіраць, есці варыць, бялізну сціраць ды памагаць кашалі плясці. Часценька заходзіў да іх каваль на суседскую размову, а больш за ўсё, каб на Трысцінку падзівавацца, як яна ў рабоце звітна спраўляецца. А тая што

год то і прыгажэйшая становіцца — не заўважылі як яна і на паненку вырасла.

І пакахаў яе шчыра каваль, але прызнацца ў сваіх пачуццях не адважыўся: баяўся, што Трысцінка абсмяе яго, у сярэднім ужо ўзросце мужчыну.

Слых аб незвычайнай красе Трысцінкі хутка праляцеў па ўсёй ваколіцы, і пачалі наведвацца да яе ў сваты розныя падпанкі і паны.

Прыехаў адзін паніч, глянуў на Трысцінку і сумеўся, на красу яе дзівуючыся.

— Выходзь, — кажа, — за мяне замуж. Нічога рабіць не будзеш, у залачонай карэце, куды толькі табе ўздумаецца, паедзеш.

Падумала Трысцінка ды і кажа яму:

— Хачу пераканацца, ці твая любоў шчырая. Дастань мне тую цудоўную чашу, што за сямю лясамі пільнуе аднавокі людаед. Калі чашу прынясеш мне, тады і замуж за цябе пайду.

Зажурыўся паніч і выйшаў з хаты. Стаў за парогам і задумаўся, што яму рабіць з жаданнем прыгажуні. Ажно чуе: каваль у кузні па жалезе дзвэнкае. Прыгадалася яму, што ў яго карэце на адным коле шына нешта паслабела. „Пад'еду да каваля, — падумаў ён, — няхай кола перацягне".

Пакуль каваль каля кола завіхаўся, паніч яму слова па слове і расказаў, чаго ён у гэтае глухое сяло завітаў.

А каваль яму на тое:

— Панічыку, пашто ехаць за сем лясоў дрымучых ды ў абдымкі людаеду совацца. Я табе чашу выкую яшчэ прыгажэйшую.

Уцешыўся паніч. Гору грошай кавалю абяцаў. Каваль жа сказаў яму прыехаць за тры дні, а сам чашу каваць узяўся.

Прайшло ўсяго два дні, а паніч не стрываў і едзе да каваля, глянуць на яго работу.

— Як чаша куецца? — пытаецца.

— А ўжо гатовая, — адказвае яму каваль, — асталося вушкі дарабіць.

Глянуў паніч на чашу і аж вочы ў яго заіскрыліся. Не бачыў ніколі ён такой прыгожай пасудзіны. Схапіў яе аберуч ды і кажа кавалю:

— Нічога, яна і без вушкаў цудоўная!

Ды з кузні бягом да хаты Трысцінкі, а кавалю не толькі што заплаціць, але нават і падзякаваць не агорыўся.

Задзівавалася Трысцінка, на цудоўную чашу гледзячы, і згоду на шлюб дала. Пакаціў паніч у свой палац да шлюбу рыхтавацца. Каваль жа тымчасам зрабіў вушкі да чашы; прынёс да Трысцінкі і кажа:

— Пакажы, Трысцінка, панічоў падарунак, у ім вушкі яшчэ прымацаваць трэОа.

Слова за словам і даведалася Трысцінка, што прыдбаў паніч чашу зусім не за сямю лясамі дрымучымі ў жахлівага людаеда, але тут, па-суседску, у каваля задарма ўхапіў.

Калі прыехаў паніч са сваімі вясельнікамі, яна і прыняла іх, і чым хата багата пачаставала, але на шлюбным ручніку з панічом не стала.

Праз нейкі час прыязджае другі панок у сваты да Трысцінкі. З галавы да ног золатам абсыпаць яе абяцае. У шчырым каханні клянецца. Просіць-моліць, каб за яго замуж пайшла.

Падумала Трысцінка і кажа яму:

— Хачу пераканацца, ці твая любоў верная. Прывязі ты мне тую жалезную галінку, што расце на дубе за сямю высокімі гарамі і пільнуе яе арол з жалезнымі дзюбай і кіпцюрамі. Калі дастанеш мне яе, дык тваёй жонкаю буду.

Затужыў вельмі панок. Выйшаў з хаты і задумаўся. Ажно чуе: каваль у кузні мяхом дзьме. І прыпомнілася яму, што ў яго карэце адна рысора лопнула і яе абавязкова трэба наладзіць. Пад'ехаў ён да кузні і загадаў кавалю ўставіць новую рысору-

Пакуль каваль ладзіў карэту, панок і расказваў .яму, чаго ён сюды прыехаў.

Тут каваль і кажа яму:

— Паночку ці варта пад арлінfamous жалезныя дзюбу ды кіпцюры лезці аж за сем гораў? Я табе такую галінку выкую, што дзіву дасіся.

Узрадаваўся панок непамерна і абяцаў кавалю вялікую заплату.

— Праз тры дні прыязджай — будзе гатова, — адказаў яму каваль.

Паехаў панок дадому, а каваль узяўся галінку рыхтаваць.

Не прайшло і трох дзён, як прымчаўся панок на кавалёву работу глянуць.

Уваходзіць ён у кузню, а галінка ўжо гатовая на сцяне вісіць, толькі ў ёй аднаго лісточка не хапае. Глянуў панок на галінку — -вочы ў яго разбегліся. Ніколі ён такога цуда не бачыў. Схапіў ён галінку ды подбегам да Трысцінкі памкнуўся. Кавалю ж і не заплаціў і не падзякаваў нават.

Захаплялася Трысцінка цудоўнай галінкаю і на шлюб згоду дала. Паехаў шчаслівы панок у свой фальварак да вяселля рыхтавацца. У той жа' час каваль зрабіў лісточак і прынёс Трысцінцы, каб да галінкі прымацаваць яго.

І тут даведалася Трысцінка пра ашуканства панка. Калі ж прыехаў ён, каб Трысцінка з ім пад вянец станавілася, яна і прыняла, і пачаставала яго вясельную дружыну, чым толькі змагла, але пад вянец з ім не пайшла.

Прайшло некалькі дзён, і завітаў да Трысцінкі трэці пан. У каханні кляўся, многа слуг да яе прыставіць абяцаў, Трысцінку вялікай паняй зрабіць намерваўся.

Падумала Трысцінка і сказала пану:

— Хачу пераканацца, ці тваё, пане, каханне сталае. Дастань мне тую кветку, што за сямю рэкамі ў пустыні цвіце і пільнуе яе змей агнядышачы. Калі прынясеш мне яе, тады я паверу ў сталасць твайго кахання і за цябе замуж выйду.

Нявесела стала на душы пану, пасмутнеў ён, задумаўся, выйшаў з хаты Трысцінкі і на шчыкецін плота абапёрся. Але ж чуе: каваль на тачыле нож точыць. Успомніў ён, што ў яго адзін конь згубіў падкову. Пайшоў пан да каваля, каб каня падкаваць. Пакуль той каля конскага капыта хадзіў, пан і расказаў яму аб сваёй прыгодзе.

— Чаго ехаць, пане, за сем рэк ды яшчэ ў змееву пашчу пхацца? — гаворыць яму каваль. — Я табе такую кветку выкую, што і на пустыні не знойдзеш.

Аж падскочыў ад радасці пан, горы залатыя кавалю абяцаў і ў свой маёнтак паляцеў.

Не мінула і два дні, а пан тут як тут, каля кузні ўжо з карэты выскаквае, каб на працу каваля зірнуць. Глянуў — кветка ўжо гатовая ды такая прыгожая, што ён аж дзіву даўся. Без слова схапіў яе і да Трысцінкі панёс, а пра свае абяцанні заплаціць кавалю нават і не ўспомніў.

Захаплялася Трысцінка, на кветку гледзячы, і згадзілася за пана замуж пайсці.

Толькі пан з парога, як уваходзіць каваль і кажа Трысцінцы:

— У кветцы, што табе пан прынёс, не хапае сярэдзінка Я яе ўжо зрабіў і хачу ўставіць.

І на гэты раз таксама пераканалася дзяўчына, што пан ашукаў яе.

Прыкра ёй стала, пасумавала яна, нават слязінка ў вока набегла.

А тут каваль, каля парога* патаптаўшыся, глянуў на Трысцінку яснымі вачамі і кажа:

— Не шукай, дзяўчына, шчасця з панамі шляхетнымі, бо душа іх палахлівая ды ілжывая. Выходзь

за мяне, простага чалавека, замуж. Я ж цябе здаўна кахаю.

Праз нейкі час гуляла ўся вёска на вяселлі каваля з Трысцінкаю. На сталах красаваліся пірагі, а перад маладой парай стаяла чаша прыгожая з галінкай і кветкай незвычайнымі. Так то працавітасць з прыгажосцю шлюбам злучыліся на ўвесь свой век. А на тым гучным вяселлі і я быў, мёд салодкі піў, па губах цякло ды ў рот не пападала.

## СЛОЎНІК

Абруб — даволі вялікі кавалак пушчы або іншага лесу, за якім наглядаў адзін асочнік або ляснік.

**Абход** — I. Тое самае, што „абруб"; 2) „Ісці ў абход' абазначала ісці пільнаваць свой абруб.

**Асочнік, асочнікі** — сяляне, якіх абавязкам калісьці было ахоўваць пушчы, што належалі да караля польскага і вялікага князя літоўскага або магнатаў. Звычайна іх пасялялі вакол пушчаў і давалі надзел зямлі, за якую яны не адраблялі паншчыны і не плацілі грашовых падаткаў. Апрача службы пры ахове пушчы асочнікі абавязаны былі служыць каралю або магнату ў часе паляванняў, удзельнічаць у ваенных паходах, рамантаваць лясныя дарогі і масты.

**Гакоўніца** — колішняя агнястрэльная зброя, якая сваім выглядам нагадвала сённяшняе паляўнічае ружжо.

**Гарліва** — вялікі сноп вытрасенай і роўненька складзенай саломы.

Губа — цвёрды грыб, што расце на дрэвах. Калісьці спецыяльна вымачаная ў водным растворы попелу, патоўчаная і высушаная на сонцы губа служыла для здабыцця агню. Дзеля гэтага ўдаралі крэмнем аб крэмень або кавалкам жалеза аб крэмень і дабывалі іскру, а тая запальвала губу.

**Дваяны** — два збанкі, разам злепленыя бакамі. Калісьці ў адным з такіх збанкоў насілі працуючым у полі „кіслую" страву (капусту, шчавей, боршч і інш.), а ў другім — „прэсную" (кулеш, забеленую зацірку і г.д.).

**Жыраванне** — пасвінне дзікай жывёлы і птушак.

**Жупіце** — верхняя цёплая вопратка, пашытая з саматканага тоўстага сукна, падобная на сённяшні плашч з доўгімі поламі.

**Завалачыць** — выраўняць або забаранаваць **поле.**

Звалокі — нізкія санкі, на якіх калісьці і часам яшчэ цяпер цягнуць коньмі на поле плуг або барану.

Зэдлік — маленькі столачак.

Казня — калісьці: арышт, астрог, турма.

**Капа** — шэсцьдзесят штук.

Кацмалух — заспаны, апушчаны і брудны чалавек.

Квачык — пэндзаль да пабелкі, звязаны саматуж, пераважна з высушанай балотнай травы.

Крушня — горба польнага каменя.

Мара — здань, прывід, нешта не маючае цела, а толькі няўлоўны выгляд.

**Начное** — пасвінне коней або валоў ноччу.

Палаці — калісьці ў хаце, пераважна ў вуглу за печчу, высланы дошкамі насціл, на якім спала ўся сям'я.

Пароша — неглыбокі мяккі пухкі снег, які нападаў на папярэдні цвёрды снежны пласт.

Праснак — блін, аладак пераважна з ячменнай або жытняй мукі, замешаны на вадзе і спечаны на чэране печы, без тлушчу.

Рагаціна — колішняя зброя, ужывалася пераважна ў часе палявання, на дрэўку даўжынёй каля 2 метраў прымацаваны востры жалезны наканечнік, знізу наканечніка выстае папярочнік, каб вастрыё наканечніка не ўбівалася глыбока.

Саква — пераважна скураны мех, які прывязвалі да сядла.

Саф'ян — каштоўны гатунак казлінай скуры, вырабленай у раслінных дубільніках і памаляваны на яскравыя колеры.

Уплык — наўскач, галопам.

Хром — мяккі сорт скуры.

Халера — вострая заразная хвароба, якая калісьці пашыралася як эпідэмія, вельмі небяспечная.

Чабан — авечы пастух.

Чорна стопа — інакш зазімак, калі вада пакрылася тоўстым лёдам, моцна ўмерзла зямля, але яшчэ не выпаў снег.

Цівун — у даўніх часах каралеўскі або магнацкі служачы, які наглядаў за падданымі сялянамі, збіраў з іх даніны і г.д.

Ціс — даўгавечнае хвойнае дрэва з вельмі моцнай і прыгожай драўнінай чырванаватага колеру, цяпер яно надта рэдкае.

Шосткі ставіць — працаваць пры вырубе дрэў у лесе, рэзаць бярвенні на кавалкі даўжынёй у адзін метр і складваць іх у роўныя стусы.

Ярмо — прымітыўны колішні хамут, у форме рамы, часам абшытай скурай. У ярмо запрагалі валоў', каб імі абрабляць поле, або ехаць возам ці санямі.

ЗМЕСТ